

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ШТОТЫДНЁВІК

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Пятніца, 13 красавіка 1990 г. № 15 (3529) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.


**Самейнае трыо.** Валянціна ПАРХОМЕНКА, Аляксандр КАЗАК і іх дачка Вольга.

Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.

## У НУМАРЫ:

*Перабудова і мы: урокі, трывогі, спадзяванні*

# «ЧП» не раённага маштабу

**Шаноўная рэдакцыя. У нас, у Аршанскім раёне, адбыўся вельмі прыкры выпадак. На кандыдата ў народныя дэпутаты БССР настаяцеля Свята-Троіцкай царквы айца Віктара (В. А. Радамысльскага), які балаціраваўся па Арэхаўскай выбарчай акрузе № 155 разам з першым сакратаром Аршанскага райкома партыі С. Башкевічам, у ноч на нядзелю 18 сакавіка — дзень паўторных выбараў — быў зроблены замах. Чалавек, які ўварваўся ў хату святара, здзекаваўся з яго і ягонага сану, учыніў тут сапраўдны пагром.**

**І раней святару В. Радамысльскаму неаднойчы пагражалі «звесці з ім рахункі», калі ён не зніме сваю кандыдатуру на выбарах у Вярхоўны Савет БССР. Але айцец Віктар на выбарах 18 сакавіка перамог свайго саперніка і стаў народным дэпутатам БССР.**

**Выканаўца замаху на святара злоўлены, але ці будуць выяўлены галоўныя аўтары і натхніцелі злачынства!**

**Р. МАКСІМЕНКА, С. САЎКА,**
**рабочыя завода «Чырвоны кастрычнік».**

г. п. Барань Аршанскага раёна.

Касірка невялічкай аўтобуснай станцыі ў Арэхаўску, да якой я зайшоў, каб папытацца, дзе жыве айцец Віктар, здаецца, гатова была сама правесці мяне да хаты святара. Даведаўшыся ж, што я з газеты, зарадавалася: «Вось добра! Мо разбярэцеся, чаму нашага папа крыўдзяць, распускаюць пра яго розныя плёткі. А перад самымі выбарамі ва ўласнай хаце збілі.— І нечакана дадала: — А мы ўсё роўна яго дэпутатам выбралі. Ён за людзей і людзі за яго».

Жыве айцец Віктар недалёка ад царквы ў старым звычайным вясковым доме. Але ўнутры вока адразу адзначае стэрыльную чысціню пафарбаванай падлогі, утульнасць невялікіх пакойчыкаў, абстаўленых сціпла, самым неабходным.

Сам святар аказаўся даволі маладым мужчынам з невялікай русявай барадой і вусамі. Акуратная чорная рыза надавала яго постаці і пэўную вытанчанасць.

Айцец Віктар запрасіў мяне сесці і з запытаннем угледзеўся ў мяне. Я ж на нейкую хвіліну сумеўся. Смешна сказаць, але ўпершыню ў сваім жыцці сустракаўся сам-насам са святаром. Да ўсяго, і выхоўвалі нас адпаведным чынам, на пэўную настроенасць да боскіх служак. І тут, у «папоўскім» доме, я спачатку, прызнаюся, не мог вось так адразу адолець засвоены з дзяцінства стэрэатып: «Бога няма, а царкоўнікі ўсе як адзін — падманшчыкі». Што ж хацець, калі мы толькі зараз засвойваем сапраўдную каштоўнасць і значнасць адзначанага Усеагульнай дэкларацыяй правоў чалавека права на свабоду думкі, сумлення і рэлігіі, толькі сёння, пачынаем разумець і ўсведамляць, што чалавека нельга прымусіць у нешта верыць ці не верыць.

Мне расказвалі, што на нядзельныя казані айца Віктара ў царкве збіраецца процьма народу, у тым ліку і няверуючых, моладзі. Іх вабіць сюды дэмакратычнасць святара, яго заклікі да дабра і міласэрнасці, уменне проста і даходліва гаварыць пра складаныя жыццёвыя праблемы...

Урэшце паказваю святару атрыманы рэдакцыяй ліст пра начны гвалт, учынены ў ягоным доме. Айцец Віктар прабягае вачыма пісьмо і хмурнее. Кажу яму, што чуў некалькі версій гэтай падзеі, а як было на самай справе?

**— На самай справе?— паўтарае айцец Віктар.— Семнаццатага сакавіка прыехаў я вечарам з Мінска і прылёг адпачыць. Прачнуўся ад грукату ў акно і крыку «Адчыняй!» Запаліў я святло, зірнуў на гадзіннік — было дзве гадзіны ночы. Хто гэта можа быць? Чаго ён грукае так у акно і лаецца? Не паспеў накінуць на сябе што-небудзь, як раптам шыбіна — дзынь! — разляцелася! І «начны госць»,— святар усміхнуўся,— пачаў ламацца ў дзверы. Я адчыніў іх, і ў пакой уварваўся незнаёмы мне мажны дзяцюк. Быў ён, гэта адразу кідалася ў вочы, пад добрай чаркай. Чалавек схапіў мяне загрудкі і штурхануў да сцяны. Я ачомацца не паспеў, як ён зноў штурхануў мяне ў кут, пасля зноў грымнуў мною аб сцяну, зваліў на падлогу. Я пытаўся ў яго, што яму ад мяне трэба. Ён адказваў брыдкай лаянкай, крыкамі: «Усё роўна, папоўская морда, цябе заўтра не выберуць!..»**

Я спрабую ўявіць, як усё тое было: цёмная сакавіцкая ноч, глухая вясковая вуліца, п'яны бандыт і... падняты з пасцелі фактычна безабаронны чалавек. Нібы прачытаўшы мае думкі, святар ціха гаворыць:

— Вы ж разумееце, мне нельга было прымяніць фізічную сілу, гэта не дазваляе мой сан.

— Як вы сабе тлумачылі ў тыя хвіліны гэты нечаканы напад?— пытаюся я.

— Ну, не зусім нечаканы,— адказвае айцец Віктар.— У час выбарчай кампаніі, асабліва пасля першага тура галасавання, калі я набраў 7750 галасоў — на 1700 больш за свайго канкурэнта — першага сакратара Аршанскага райкома партыі, супраць мяне была разгорнута беспрэцэдэнтная кампанія дэзінфармацыі і паклёпу. У многіх арганізацыях адкрыта заклікалі прагаласаваць супраць папа... Зрэшты, вам пра гэта лепш раскажуць лісты, якія я атрымаў.

Айцец Віктар падае мне пачак канвертаў. Я чытаю адно пісьмо, другое, трэцяе...

**«У дзень выбараў мы ляжалі ў мясцовай бальніцы,— пішуць у калектыўным лісце Сухавараў, Шышакоў і Іванова,— і нам вельмі крыўдна, што мы прагаласавалі не за таго, за каго хацелі. Чаму? Напярэдадні выбараў — 16-17 сакавіка — па палатах хадзіў галоўны ўрач бальніцы Кавалевіч і папярэджваў: хто не прагаласуе за сакратара райкома таварыша Башкевіча, таго адразу выпішуць дадому...»**

**«Здравствуйте дорогой отец Виктор вам пишит незнакомая женщина с деревни Задровы которая говорила на собрании что будит за вас голосовать Я хочу собчить отом что у нас шли выбары несправетливо Маньковски и Исаков водили людей за руки и говорили чтобы вас вычёркивали и ездили по деревням чтобы люди за вас не голосовали и все время стояли и водили людей чтобы вычеркивали вас а голосовали за Башкевича. Отец Виктор я вас прашу чтобы вы пастарались собчить пра ети выборы. Мой адрес на листике... Башкевич по нашему колхозу прошол...»**

**«Уважаемый ацец Виктар А. Радамысльский. Просим приехат в Межева, а лутше отправить человека из членов комисии, как наши партийцы заставляют чтобы вычеркивали вас, а оставили Башкевича, но мы не хотим таких воборов. А это пишут пенсионеры Межева...».**

Чуў, чытаў неаднойчы, што ў час апошніх выбараў сярод выбаршчыкаў панавалі абыякавасць і апатыя. Няпраўда гэта! Чытаю, перачытваю лісты да айца Віктара і бачу, што людзі якраз і не абыякавыя, яны збудзіліся, прагнуць справядлівасці і праўды, паўстаюць на абарону сваіх чалавечых правоў і годнасці.

Але — чым жа скончыўся начны «візіт» у хату святара? Паводле слоў айца Віктара, чалавек той, ці то працверазеўшы, ці то па якой іншай прычыне, урэшце кінуўся да дзвярэй і знік. Тым часам святар адчуў сябе блага і пайшоў да суседзяў, каб тыя выклікалі «хуткую дапамогу» (у айца Віктара тэлефона няма). Той жа ноччу да святара прыйшоў участковы, каб распытаць, як усё было, пацікавіўся прыкметамі хулігана...

Я ПАГУТАРЫЎ з участковым інспектарам Аршанскага РАУС у Арэхаўску М. Аксёнавым. Ён расказаў, што ў ноч перад выбарамі 18 сакавіка вартаваў бюлетэні на выбарчым участку.

**— У гэтым была патрэба?— здзівіўся я.**

**— Яшчэ якая!— адказаў Аксёнаў.— Абстаноўка тут была так напалена, што можна было чакаць любых эксцэсаў.**

**Далей ён расказаў, што ў самы разгар дзяжурства яму пазванілі, што нехта ўварваўся ў дом святара.**

**— Ведаеце,— расказваў інспектар,— спачатку падумаў, што мяне хочуць выманіць з участка, каб нешта зрабіць з бюлетэнямі, але ўсё-такі пайшоў. У доме святара я адразу звярнуў увагу на рудыя плямы на падлозе. Гэта былі плямы ад крыві. Тут жа высветліў у айца Віктара, што напляміў нападаючы: аб разбітую шыбіну ён парэзаў руку. Па прыкметах, якія мне паведаміў В. Радамысльскі, я хутка знайшоў парушальніка. Ім аказаўся механізатар мясцовага калгаса «Маяк камуны» Крысанаў, які жыве ў Арэхаўску. Неўзабаве я адвёз яго ў Оршу да народнага суддзі Кавалёва, які прысудзіў парушальніка парадку да пяці сутак арышту, кваліфікаваўшы яго ўчынак як дробнае хуліганства.**

**— Якія ўсё-такі матывы кіравалі Крысанавым?— пытаюся я.**

**М. Аксёнаў паціскае плячыма:**

**— Хто яго ведае. У сваіх тлумачэннях Крысанаў блытаўся, то адно скажа, то другое. Адным словам, цёмная гісторыя, паспрабуй — разбярыся.**

На жаль, ніхто тут, як я зразумеў, і не збіраўся як след разабрацца з гэтай гісторыяй. А, як гэта звычайна бывае, вакол яе адразу нарадзілася нямала легенд, версій, здагадак. У прыватнасці, мусіравалася думка, што Крысанава, папярэдне падпаіўшы, нацкавалі на святара, нават спецыяльна падвезлі на машыне да яго хаты. Называліся пры гэтым канкрэтныя імёны, месца, дзе праходзіла п'янка. Я паспрабаваў праверыць гэтую версію. Яна не пацвердзілася. І ўсё-такі я б не спяшаўся сцвярджаць, што з'яўленне Крысанава ў доме святара — чыстая выпадковасць, прыхамаць п'янага чалавека. Сказаў пра гэта і ў час гаворкі з работнікамі ідэалагічнага аддзела Аршанскага райкома партыі. «Дык што, мы яго туды накіравалі?» — з крыўдай у голасе спытаў адзін з прысутных. Так я, вядома, не думаў. Але ў тым, што «дробны хуліганскі ўчынак» Крысанава быў народжаны атмасферай татальнай дыскрэдытацыі, ганьбавання, кампраметацыі В. Радамысльскага,— у гэтым я ўпэўнены.

**Людзі, па ініцыятыве якіх стваралася тая атмасфера, пайшлі не толькі на грубае парушэнне Закона аб выбарах, але і не спыніліся перад парушэннем Крымінальнага кодэкса. Недзе за два ці тры дні да выбараў 18 сакавіка па ўсім Аршанскім раёне была распаўсюджана лістоўка з некаторымі звесткамі, што тычыліся біяграфіі В. Радамысльскага. Каб чытачу было зразумела, што да чаго, прыўзніму заслону над прыведзенымі ў лістоўцы фактамі. Справа ў тым, што Віктар Радамысльскі ва ўзросце чатырох гадоў быў усыноўлены адной бяздзетнай ленінградскай парай. Недзе гадоў праз трыццаць пасля гэтага прыёмныя бацькі разышліся, стварыўшы новыя сем'і. У сувязі з гэтымі абставінамі В. Радамысльскі паставіў у судовым парадку пытанне аб скасаванні свайго статуса «ўсыноўленага». Яно разглядалася ў Аршанскім раённым судзе ў 1988 годзе і закончылася не ў карысць айца Віктара. Сёлета ж, праз два гады, стараннямі пэўных асоб, насуперак крымінальным і маральным законам, судовая справа была выцягнута на свет боскі і выкарыстана супраць кандыдата ў народныя дэпутаты БССР. Цяпер многія праціўнікі В. Радамысльскага прызнаюць, што лістоўка не дасягнула мэты, якую ставілі перад сабой яе аўтары, наадварот,— згуртавала вакол святара яго прыхільнікаў,— яны адразу здагадаліся, чыіх гэта рук справа.**

А САПРАЎДЫ — чыіх? След вёў да суддзі Аршанскага раённага суда М. Кавалёва, які ў 1988 годзе разглядаў грамадзянскую справу В. Радамысльскага. Я сустрэўся з ім. Міхаіл Антонавіч абураецца і адхрышчваецца ад той бруднай лістоўкі. Што ж, сітуацыя не з прыемных: святар падаў на суддзю скаргу ў Міністэрства юстыцыі за выкарыстанне апошнім не падлягаючых агалосцы дакументаў з мэтай дыскрэдытацыі кандыдата ў народныя дэпутаты, «справу» запатрабавала ўжо і абласная пракуратура...

**— Хочуць зрабіць з мяне дурня, усю віну ўзваліць на мяне,— гаворыць Кавалёў.— А што я мог зрабіць? Да мяне прыйшоў другі сакратар Аршанскага райкома партыі Аляксандр Цімафеевіч Букштын і патрабаваў, каб я аддаў яму з судовай справы Радамысльскага ліст да яго прыёмнай маці. Ліст гэты, маўляў, трэба распаўсюдзіць у выглядзе лістоўкі.**

**— Даруйце,— кажу я суддзі,— але ж вы не маглі не ведаць, што парушаеце працэсуальны закон? Суддзя, які парушыў закон,— што можа быць больш небяспечнае?**

**— Гэта тэарэтычна,— усміхаецца Кавалёў.— На месцы, у раёне мы глядзім на гэтыя матэрыі крыху інакш. Для мяне закон — партыйнае кіраўніцтва. Нарэшце, існуе партыйная дысцыпліна, а я, між іншым, яшчэ і сакратар пярвічнай партарганізацыі...**

**— Вам Букштын хіба пагражаў?**

**— Не, вядома. Проста сказаў, што гэта трэба для перамогі на выбарах першага сакратара райкома Башкевіча. Праўда, праз пару дзён да мяне зайшоў інструктар райкома Лук'янаў, які прапанаваў мне напісаць лістоўку на гэтую ж тэму толькі ўжо ад свайго імя. Я катэгарычна адмовіўся.**

Зайшоў я і да старшыні раённага суда В. Бярговіна.

— Вы былі ў Кавалёва, што ён вам сказаў? — спытаў у мяне Віктар Мікалаевіч.

— Расказваў, як другі сакратар райкома патрабаваў у яго дакумент з судовай справы Радамысльскага,— прызнаўся я.

— Я пра гэта чуў. Неяк, вярнуўшыся з раёна, я застаў у сваім кабінеце Кавалёва і Букштына, яны гаварылі аб лісце прыёмнай маці святара.

— І вы не ўмяшаліся, не папярэдзілі правапарушэння ў сценах суда? — спытаў я.

— Сакратар райкома — для мяне аўтарытэт,— адказаў старшыня суда і, зірнуўшы на гадзіннік, даў зразумець, што аўдыенцыя скончана.

**Іду ў райком партыі да Аляксандра Цімафеевіча Букштына. Сакратарка ў прыёмнай паведамляе, што другі сакратар некалькі дзён назад узяў адпачынак. Няма на месцы і С. Башкевіча — паехаў па раёне. Спускаюся на першы паверх у ідэалагічны аддзел, адшукваю інструктара Юрыя Лук'янава. Пытаюся ў яго:**

**— У вас была размова з суддзёй Кавалёвым наконт напісання апошнім лістоўкі пра Радамысльскага?**

**— Які суддзя, якая лістоўка?— злосна перапытвае ён.— Нічога не ведаю!**

**— Значыць, суддзя, назваўшы ваша прозвішча, зманіў?— спакойна пытаюся я.**

**У размову ўмешваюцца калегі Лук'янава, што сядзяць у пакоі.**

**— Чаго вы носіцеся з гэтым святаром!— чую я.— Абрыдла!**

**— Здаецца, успомніў,— кажа, між тым, Лук'янаў,— я сапраўды заходзіў да Кавалёва, але каб пацікавіцца, калі ён напіша артыкул у раённую газету...**

**— Гэта суддзя ўсё пераблытаў,— паспачуваў я райкомаўскаму інструктару. Ён насцярожана зірнуў мне ў вочы, але, відаць, нічога не ўбачыў...**

У АЎТОБУСЕ, якім вяртаўся з Арэхаўска, апынуўся сярод гаманлівай грамады вясковых дзядзькоў і цётак. Гаварылі яны аб тым, што завезлі ў магазін, хто з кім ажаніўся, хто да каго прыехаў. Не абмінулі і выбарчай тэмы. Успаміналі, хто за каго галасаваў, як на выбарах паводзіла сябе мясцовае начальства, згадалі пра «ЧП» з айцом Віктарам.

— А вы чулі,— азваўся мужчына з пярэдняга сядзення,— Башкевіча выбралі прэзідэнтам раёна.

— Не можа быць!— запярэчыў нехта.— Яго ж не выбралі летась народным дэпутатам у Маскву, не дабраў шмат галасоў і сёлета. Які ж ён прэзідэнт?

Я пасміхнуўся сам сабе: блытаюць штосьці мужыкі.

Ды, аказалася, не надта яны і памыліліся. Ужо ў Оршы даведаўся, што на сесіі райсавета С. Башкевіч быў абраны яго старшынёй. Абавязкі гэтыя ён будзе спалучаць з абавязкамі першага сакратара райкома партыі. Усё, як на самым версе. Ды падумалася мне, што ў адрозненне ад выбараў прэзідэнта ўсёй краіны, тут ужо свайго раённага прэзідэнта можна было абраць не на сесіі райсавета, а ўсёй грамадой, усім народам...

І яшчэ пра адно. Вызваленым намеснікам старшыні райсавета сесія абрала Букштына Аляксандра Цімафеевіча. Так, таго самага.

**Міхась ЗАМСКІ,**
**спецыяльны карэспандэнт «ЛіМа».**

Арэхаўск—Орша—Мінск.



**Леанід ЛЫЧ,**
доктар гістарычных навук

# Нацыянальная самасвядомасць беларусаў: ДЭГРАДАЦЫЯ І АДРАДЖЭННЕ

**Сапраўдная гісторыя кожнага народа *пачынаецца толькі* з усведамлення сваёй адметнасці сярод усіх суседніх яму супольнасцей людзей і працягваецца да тае пары, пакуль не знікне ўласцівая яму здольнасць дыферэнцыраваць сябе ад іншых. А існуе ж яна датуль, пакуль людзей не пакіне этнічная, нацыянальная самасвядомасць. Пры поўнай яе страце народ перастае ўяўляцца як штосьці самабытнае, хоць і расце ён колькасна, спаўна *задавальняе* свае патрэбы прадуктамі харчавання для нармальнага біялагічнага існавання. Цяпер гэта ўжо нейкая аморфная, безнадзейна згубленая для самастойнага этнічнага развіцця чалавечая маса, але зусім не бескаштоўная для суседніх супольнасцей людзей як крыніца іх колькаснага росту. У такіх умовах адбываецца дармовае расцягванне пазбаўленых нацыянальнай самасвядомасці людзей больш моцнымі суседнімі этнасамі. Асабліва паскоранымі тэмпамі, маштабна гэ*тыя працэсы адбываюцца тады, калі* перспектыўныя на дадзены момант этнасы маюць шмат агульнага ў культуры і гісторыі з народам, які пачаў пад уплывам розных фактараў выракацца сваіх духоўных традыцый, самога сябе. Калі б удалося з дапамогаю матэматычных метадаў падлічыць, што ж усё-такі адбылося за час, які прайшло чалавецтва, дык, напэўна, высветлілася б, што больш народаў *спынілі* сваё этнічнае, нацыянальнае існаванне ў выніку няздольнасці заставацца самім сабою, чым ад ваенных дзеянняў, стыхійных бедстваў, паморкаў і г. д.**

**Нават у выпадку натуральнай, як часта пішуць, асіміляцыі (не кажучы ўжо пра прымусовую), вялікай спагады, моцнага жалю заслугоўвае этнас, які ці то па ўласным непаразуменні, ці то па прычынах, што не залежаць ад яго, спачатку лакальна, а затым і ў глабальным маштабе паступова губляць свае духоўныя здабыткі, *пераходзіць на паступовае* скарыстанне, таго, што створана культурамі іншых народаў. Лепшыя таленты этнасу, асуджанага па сваёй ці чужой волі на выміранне, не знаходзячы неабходнай падтрымкі ад супляменнікаў, немінуча хірэюць, а некаторыя шукаюць выйсця ў тым, каб пачынаць тварыць на глебе чужой для іх продкаў культуры. Але нават пры самым высокім таленце і стараннасці *толькі адзінкам* з іх удаецца стаць прыкметнай велічынёй. Патрэбна змена не аднаго пакалення, каб чужая культура наскрозь прасякнула душу творцы. Мінуўшчына не-не ды адгукнецца з неверагоднай сілай праз многія пакаленні і крохкімі парасткамі вылазіць на паверхню ў творах мастака, якія нясуць сляды духоўнай палітры далёкіх продкаў, але выходзяць за межы інтарэсаў новага асяроддзя, у якім яму даводзіцца жыць і працаваць, што не гарантуе дасягнення жаданых *кожнаму творцу папулярнасці і пры*знання.**

**Гістарычнаму вопыту чалавецтва вядомы і шматлікія зусім процілеглага характару выпадкі, калі народы не раставалі сярод іншых, захоўвалі сваё аблічча нават пры такіх умовах, якія, здавалася, не пакідалі для іх аніякіх гарантый на выжыванне. Тлумачыцца гэта іх высокім узроўнем этнічнай самасвядомасці, непахіснай *воляй супрацьстаяць усялякага* роду асіміляцыйным працэсам, нежаданнем сысці з гістарычнай сцэны. Цывілізацыя планеты Зямля павінна радавацца, што яна заселена вялікай колькасцю арыгінальных супольнасцей людзей, якія, нягледзячы на самыя жорсткія выпрабаванні часу, не растварыліся, захавалі сябе, чым надаюць непараўнальную прыгажосць Чалавецтву, якое непазбежна згубіла б сваю красу, стаўшы безнацыянальнай масай.**

*божа праведны*
*божа высокі*
*божа літасцівы*
*збаві род наш*
*ад немачы*
*страшней за батыя*
*страшней за чуму*
*збаві нас грэшных*
*збаві нас бедных*
*ад самавыраджэння*
*самазабыцця*
*амінь.*

*Міхась РУДКОЎСКІ.*

## 1. ЦЯРНІСТЫЯ ШЛЯХІ ВЫЖЫВАННЯ

Парасткі нацыянальнай самасвядомасці пачынаюць прабівацца на паверхню яшчэ задоўга да таго, як сфарміруецца нацыя. Калі яны даюць добрыя ўсходы, этнічная супольнасць пры больш-менш спрыяльных умовах ператвараецца ў нацыю. У беларусаў гэты працэс у асноўным завяршыўся пад канец XIX стагоддзя.

Шлях да сфарміравання і выжывання як самабытнага этнасу, а не проста як бессістэмнай масы людзей, што не помняць сваёй роднасці, ніколі не быў гладкім і роўным для беларусаў. І галоўным фактарам, што яны не расталі сярод суседніх народаў, была этнічная, нацыянальная самасвядомасць. Бо антрапалагічна беларусам нішто не перашкаджала ні тады, ні цяпер называць сябе, адарваўшыся ад сваіх гістарычна-культурных каранёў, рускімі, палякамі, украінцамі, літоўцамі, латышамі ці прадстаўнікамі іншых еўрапейскіх народаў. Галоўнае — толькі б ведаць іх мову. І такое, на жаль, даволі часта бывала і цяпер назіраецца ў іх жыцці. У выніку падобнай этнічнай трансфармацыі беларуская народнасць, а затым нацыя панеслі не на ратным полі, а ў мірных умовах шмат людскіх страт. Гістарычна так складвалася, што цераз кантакты з іншымі народамі звычайна папаўняўся асобасны патэнцыял не беларусаў, а тых, хто з імі суседнічаў.

Аднак усе гэтыя працэсы закраналі ў асноўным перыферычныя пласты беларускай народнасці і нацыі. У цэнтры стала адбываліся з'явы трывалага кансалідацыйнага парадку, і таму на ўсіх этапах гісторыі беларусы ў пераважнай большасці знаходзілі ў сябе дастаткова ўнутраных сіл, каб заставацца самабытным народам. Такімі яны заставаліся нават у самыя неспрыяльныя для этнічнага развіцця часы шматвяковай паланізацыі і русіфікацыі, бо іх ніколі не пакідала ўсведамленне сябе як адметнай сярод іншых супольнасці людзей.

Звычайна цяжка паддаюцца асіміляцыі — пры варунках, калі суседнічаюць, уступаюць паміж сабою ў рознабаковыя кантакты — народы з непадобнымі, супроцьлеглымі антрапалагічнымі рысамі, да прыкладу, славяне і цюркі. Беларусы ж спрадвеку жылі і жывуць на сумежжы з чатырма вельмі блізкімі да іх паводле антрапалагічных прыкметаў і культуры народамі. І таму пры неспрыяльных акалічнасцях (а такімі гісторыя не абдзяліла нас) мы даволі часта адмаўляліся ад сваёй этнічнай прыналежнасці. Узнікалі такія акалічнасці не самі па сабе, а ў выніку свядомай дзейнасці дзяржаўных улад і свяшчэннаслужыцеляў па паланізацыі і русіфікацыі людзей нашага краю. Быў час, калі беларусы ніколькі не ўступалі ў колькасных адносінах ні рускім, ні ўкраінцам. Але затым шчасце павярнулася да нас спіной. Частыя і кровапралітныя руска-польскія войны на беларускай зямлі, гвалтоўная асіміляцыя яе карэннага насельніцтва з боку Рэчы Паспалітай, а затым Расійскай імперыі непазбежна вялі да памяншэння тэрыторыі яго рассялення. Павольна, а не дык і зусім не расла колькасць жыхароў, што мела вельмі адмоўныя вынікі для нашага краю.

Шматлікасць нацыі заўжды з'яўлялася важным фактарам яе жыццядзейнасці. Нездарма ж гістарычнай практыцы вядома, як у імя выжывання, павышэння жыццястойкасці нацыі дзяржаўныя органы ўсямерна садзейнічалі яе колькаснаму росту. Такі ж клопат праяўляўся і ў рамках кожнай сям'і, асабліва з боку жанчын, якія найбольш балесна ставяцца да знікнення роду, лепш за мужчын усведамляючы сябе біялагічнымі прадаўжальнікамі народнасці і нацыі.

І ўсё ж не будзем перабольшваць колькасны фактар, бо ён не адзіны, што вызначае моц нацыі. У значнай ступені гэта можа кампенсавацца адданасцю этнасу нацыянальным традыцыям, што, на шчасце, было ўласціва доўгі час беларусам. Практычна на працягу ўсяго гістарычнага шляху, як толькі ўзнікала сур'ёзная пагроза для лёсу беларускага народа, самай надзейнай апорай яго быў просты люд, асабліва сялянства, за што і зведаў ён амаль поўнае знікненне з сацыяльнай структуры сучаснага грамадства. Нягледзячы на амаль пагалоўную непісьменнасць, нашага мужыка нельга было здзівіць чымсьці чужым, заморскім так, каб ён адмовіўся ад уласнага. Традыцыі бацькоў для яго былі даражэй за ўсё наноснае.

У мужыка нават хапіла розуму, каб разабрацца ва ўсіх тонкасцях уздзеяння на яго розных рэлігійных плыняў, якія, за рэдкім выключэннем, заўжды мелі сваёй канчатковай мэтай разбурэнне нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Свайго роду парадокс, бо амаль ва ўсіх народаў рэлігія — гэта адзін з важных сродкаў духоўнага ўздзеяння на масы з мэтай умацавання іх этнічнай, нацыянальнай еднасці. У лёсе ж беларусаў яна (не лічачы уніяцкай царквы) адыгрывала прама процілеглую ролю, бо распаўсюджанае на іх землях праваслаўе ўбівала ў галовы сваіх прыхаджан, што яны рускія, а каталіцкая ўсіх сваіх вернікаў называла палякамі. Вялікая трагедыя заключалася ў тым, што такая памылковая, шкодная практыка вызначаць этнічную прыналежнасць беларусаў па рэлігійнай прыкмеце доўжылася стагоддзямі. І характэрна, што нават і ў Рэчы Паспалітай усіх праваслаўных, якія жылі на польскіх землях, называлі рускімі, — відаць, не задумваючыся над тым, што гэта давала падставу расійскай дзяржаве прэтэндаваць на даную тэрыторыю.

Цяжка сказаць, якая царква прычыніла большую шкоду нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, але на рубяжы XIX—XX стагоддзяў тут шырэйшы размах для асімілятарскай дзейнасці быў у праваслаўя, бо да яго ў нашым краі залічвалі сябе амаль 5 мільёнаў чалавек (да каталіцкай веры — каля 2 мільёнаў). Барацьба дзвюх рэлігій за перацягванне на свой бок народных мас не садзейнічала трываласці веры беларусаў у бога і таму не так моцна ўплывала на нацыянальную самасвядомасць, як гэта магло б быць у выпадку іх глыбокага рэлігійнага фанатызму. Абсалютная большасць беларускіх сялян як праваслаўнага, так і каталіцкага веравызнання жыла ў згодзе паміж сабою, размаўляла па-беларуску, не лічыла сябе рознымі народамі, хаця служыцелі дзвюх цэркваў прапагандавалі сярод іх зусім адваротныя погляды. Пры пэўных абставінах сяляне без асаблівых ваганняў пераходзілі з адной веры ў другую. На этнічным развіцці сялянства амаль зусім не адбілася тое, што мясцовыя рускія чыноўнікі размаўлялі з ім па-руску, а польскія паны — па-польску. Праўда, апошнія, бачачы, як моцна селянін трымаецца роднай мовы, часта размаўлялі з ім на беларускай, ці як тады часта называлі на «мужыцкай», «халопскай» мове.

Сённяшняе пакаленне беларусаў павінна добра ведаць, што нацыянальная самасвядомасць іх продкаў не была размыта пад уплывам ні прымусовых, ні натуральных асіміляцыйных працэсаў толькі дзякуючы таму, што ніхто іншы, як самі народныя масы моцна трымаліся сваіх гістарычных каранёў, развівалі, як маглі, сваю духоўную спадчыну, свядома імкнуліся ад пакалення да пакалення размаўляць на мове бацькоў. Менавіта апошні фактар з'явіўся вырашальным у іх лёсе, бо, нягледзячы на антрапалагічную блізкасць да рускіх ці палякаў, беларусы, размаўляючы на сваёй мове, не маглі не вызначаць па ёй і сваёй этнічнай прыналежнасці, не жадалі адносіць сябе ні да аднаго з родкасных народаў, чым выяўлялі і сцвярджалі далучанасць да пэўнай і канкрэтнай этнічнай супольнасці людзей — беларускай нацыі. Гэты найкаштоўны моўны ўрок з мінулага можа быць добрым компасам пры пошуках шляхоў захавання самабытнасці беларускай нацыі і на яе сучасным этапе.

Затое зусім нізкім узроўнем супрацьстаяння асіміляцыйным працэсам вызначаліся заможныя пласты беларусаў, якія здрадай сваёй этнічнай прыналежнасці імкнуліся дамагчыся пэўных сацыяльных прывілеяў спачатку ад польскай каралеўскай, а затым ад расійскай царскай адміністрацыі. І добра, што на такія пласты прыпадала не вельмі вялікая доля беларускага народа. Інакш пры такіх зняважлівых адносінах да яго гістарычных традыцый і духоўных каштоўнасцей магло б быць пастаўлена пад пытанне само існаванне этнасу.

Аднак было б вялікай памылкай недааацэньваць усё тое адмоўнае, што прычыніла культуры, працэсам станаўлення нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа яго найбольш уплывовая і багатая, адукаваная частка, калі пачала арыентавацца на выкарыстанне чужых духоўных каштоўнасцей і не дбала пра свае. Як-ніяк, а толькі ж у яе руках знаходзіліся сродкі для забеспячэння матэрыяльных асноў культуры, пашырэння мецэнацтва, толькі з гэтага асяроддзя людзей мог хтосьці дазволіць сабе паехаць у іншыя краіны, каб набыць адукацыю, удасканаліцца ў розных жанрах мастацтва і затым выкарыстаць іх на роднай глебе. Толькі зрэдку багатыя людзі ставіліся адпаведным чынам да свайго народа і культуры. Было б такіх выпадкаў больш, наша культура значна выйграла б у сваім развіцці.

Знаходзячыся ў вялікай залежнасці ад афіцыйных улад Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі, не заўсёды магла ў належнай ступені прысвяціць твой талент культуры роднага народа і крайне нешматлікая нацыянальна свядомая творчая інтэлігенцыя нашага краю, чым значна аслабляліся яго магчымасці дасягнуць чагосьці вартага ў духоўным жыцці, захаваць этнічную самабытнасць карэнных насельнікаў.

Самы моцны ўдар па беларускай інтэлігенцыі быў нанесены ў выніку задушэння паўстання на чале з Кастусём Каліноўскім. Беларусь пазбавілася соцень таленавітых сыноў і дачок, якія так патрэбны былі ёй у той час, калі ішоў інтэнсіўны працэс фарміравання беларускай нацыі. У гэтым працэсе ніяк нельга перабольшыць ролю інтэлігенцыі, бо толькі ёй падуладна было глыбока, з навуковых пазіцый разабрацца, што тады адбывалася ў асяроддзі нашага народа, падказаць надзейныя шляхі яго кансалідацыі, з тым каб перарасці ва ўстойлівую ад асіміляцыі супольнасць людзей.

Пазбавіўшы беларусаў калі ні цалкам, дык у вельмі пагражальных памерах сваёй уласнай інтэлігенцыі, мясцовая расійская адміністрацыя з дазволу і пры поўнай падтрымцы цэнтра непамерна ўзмацніла сваю дзейнасць па канчатковым давяршэнні асіміляцыі карэннага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю Расіі, як тады было прынята афіцыйна называць нашу Бацькаўшчыну.

На працягу доўгага часу жыццё складвалася так — і, вядома ж, не па віне беларусаў, — што калі суседнія нам народы ўжо ў той ці іншай ступені ўяўлялі сябе самабытным этнасам, мы, паводле трапнага выразу Янкі Купалы, «шукалі яшчэ свайго права людзьмі звацца. Паны, якія ўладалі ўсёй лепшай нашай зямлёй, і царскія чыноўнікі называлі наш працоўны народ «тутэйшым быдлам», і ніхто нават і заікнуцца не мог, што мы ёсць вялікі народ з сваёй культурай і з сваім нацыянальным тварам і што ў нас ёсць з чаго мець сваю нацыянальную гордасць».

У шмат якіх публікацыях афіцыйнага прызначэння, энцыклапедычных даведніках,

**(Працяг на стар. 12).**

Максім ТАНК

# «У нашых песнях — небяспечны стронцый...»



## Цяпер асцерагайцеся

Шчаслівыя часы,
Калі маглі паэты
Упэўнена пісаць
«Exegi monumentum»...

А мы не ведаем,
Што па сабе пакінем
У спадчыне нашчадкам
І краіне.

Шмат нашых песень,
Сціснутых за горла,
То задыхнуліся ў няволі
І памёрла.

То змоўкла ў хоры
Людзей незычлівых,
То пала ў бітвах
На крывавых нівах,

То спапялела
У асвенцімскіх прысках,
То зледзянела
Пад пургой сібірскай.

О, як хацелі б
Яны ўзвіхурыць крылы!
Ды іх чарнобыльскія
Хмары ўкрылі.

Таму асцерагайцеся,
Бо замест сонца,
У нашых песнях —
Небяспечны стронцый.

## Выбары каралевы

Пад воплескі літаўраў,
Пад крык
Трамбонаў,
Захапленне скрыпак,
У ліўневым мігценні
Касмічных зор, планет
Выбіраюць
Каралеву Прыгажосці.

Узважваюць красуняў
На нейкіх там бязменах,
А не на руках,
Не на арэлях,
Як мы калісьці.

Вымяраюць іх прывабнасці
Сантыметрамі рулетак,
А не пацалункамі,
Не абдымкамі,
Як мы калісьці.

Правяраюць кемлівасць іх
Розным пустазвонствам,
А не працай,
Не руплівасцю,
Не песнямі,
Як мы калісьці.

Таму я і адмовіўся
На гэтым шабасе
У склад журы
Уваходзіць.

## Стары закон

Закон, як свет, стары
І безапеляцыйны:
«Недасол—на стале,
Перасол—на спіне».

Прызнаюся: не раз,
Знарок, сам перасальваў
Тваю зацірку,
Каб мець за што,
Хоць пацалункамі,
А дапячы табе.

## На прапалцы

Хацеў сваёй суседцы
Дапамагчы
Гародніну палоць,
Ці хоць бы адганяць
Дакучных камароў
Ад загарэлых яе ног
І ад грудзей,
Што галубамі вырываліся
З няволі сарафана,
І засланіць ад сонца!..
Але адмовілася.
Што ж, пачакаю на дазвол.
Яшчэ наперадзе — усё лета,
І — дзякуй богу! —
Ёй без мяне не справіцца
З прапалкай,
З камарамі,
З сонцам.

## Рэха

Ты помніш, як хадзілі
Некалі з табой
Па ягады, грыбы,
Па лузанцы — арэхі,
І, часам, заблудзіўшы
У лабірынце хвой,
Знаходзілі сябе
Па адгалосках рэха?

Сягоння ў лесе тым
У стрэчных грыбнікоў
Пытаю: чулі мо,
Каб нехта мяне клікаў?
Маўчыць лес векавы
І толькі жураво̂й
Даносяцца здалёк
Разрозненыя клікі.

●

Лягчэй у небе нат
Злавіць рукою птушку,
Слана правесці праз
Іголачнае вушка,
Вярнуць разліў рякі
У яе былое ложа —
Як выпрастаць спіну
Сагнутую ў паклонах.

Нейкі лішні дзень,
Каб перадаць за Сціксам
Аб выніках,
Бо трэба ж ведаць,
Што каго чакае,
Ці варта зноў
На гэты свет вяртацца.

## Сны

Хоць даўно —
У кругу другіх клапот
Свае пакінуў
Родныя палі,
Але вясной мне
Сніцца кожны год,
Што я іду
З сяўцамі па раллі.

А летам — чую,
Як заве каса,
А восенню —
Верасавішчаў пах.

З якіх, рана ўстаўшы,
Выпякаюць гаспадыні
Чырвоны бласлаўлёны
Іх рукамі бохан сонца.

Як лёгка,
З яго акрайцам у торбе
І з касой на плячах
І па свежай расе
Ісці на сенажаць!

●

Адначасна з'яўляюцца на свет
І чалавек і яго смерць.
І толькі нямногім —
Гамеру, Дантэ, Шэкспіру,
Пушкіну...
Перажыць удалося
Сваю неадлучную сяброўку.

●

Ледзь пазнаў
Былога знаёмага анёла,

## У кар'еры

Хоць і зняверыліся
У васкрашэнні з мёртвых,
Усё ж, калі
Бульдозерам, лапатай
Зямлю перакідаем,
Варварскі калечым,—
Арабскай песні
Успамінаю словы:
«Ганчар, асцеражней...
Бо, можа, гэта гліна —
Нейчы прах каханай».

І з рук маіх
Лапата выпадае.

## Пачатак дзённіка

І так
Распачынаю гэты дзённік.
Я — зацяганы конь-біцюг.
На жаль — не малады.
Аб гэтым сведчаць
І плечы змуленыя хамутом,
І зубы сцертыя па цугллях,
І скабы з пісагамі пугі,
І дыхавіца, што нажыў
На непраезных
І крутых дарогах,
Даганяючы,
Прывязаныя да канца дышля,
Як абяцанні рая,
Справядлівасці —
Спакуслівую торбу аўсюка.

Вось ліха!
Чуваць, нясуць
Аброць, шляю і падсядзёлак.
Знаць, некуды
Зноў трэба будзе
Дыбаць... дыбаць... дыбаць.

●

Уважна сочым,
Каб малыш,
Пачынаючы хадзіць,
Не спатыкнуўся,
Хоць гэта ў яго узросце,
Не ўзброеным ні ведамі,
Ні ўладаю,
Яшчэ нічым
Не пагражае свету.

## Пакуль Феміда

Пакуль Феміда
Узважвае на шалях
Дабро і зло,
Праўду і няпраўду,
Мо пачакаю

Ну а зімой
Шум пількаўскіх прысад,
Зануранных
Да пояса ў снягах.

Сягоння,
Дакучаючы дактарам,
Шукаючы гаючую траву.
А я, знаць, толькі
Дзякуючы снам,
Што засталіся
У спадчыне, жыву.

●

Калі бываю я
Сярод звяроў і птушак,
Траў лугавых і дрэў,
Стараюся
Такім быць, як яны,
А не тым чалавекам,
Які недаравальна
Ім, калісьці, здрадзіў,
Забыў іх мову,
Звычаі, абрады.

●

Даўно развучыліся
Жыць патрыярхальнай сям'ёй,
Ад усходу да заходу сонца
Хадзіць за плугам,
Раніцой адным ручніком
Сціраць з твару стому і сон,
З адной міскі сёрбаць
Бацвінне ці крупнік,
Адзяваць ад мякіны зерне
І няпраўду ад праўды.

Як жа невукам гэткім
Ды ляцець на другія планеты!

●

Калі ўстанаўлівалі звычай
На першага красавіка
Дазволена, жартуючы,
Ашукваць, падманваць,
Знаць, не прадбачылі,
Што гэта можа
Многім спадабацца,
І ўсе дні іншыя
У сваім жыцці
Яны займацца
Толькі гэтым будуць.
І не жартам.

●

Не ведаю,
Як жылі б мы
Без свайго ветрака.

Днём — ён перамалвае
На муку
Нашы бяседы, спрэчкі,
Навіны,
А ноччу — зоры,

Які, дарваўшыся да ўлады,
Перш за ўсё:
Адрасціў рогі,
На нагах — капыты,
А на руках —
Учэпістыя клюшні рака.
Развіталіся.
А я і сёння адчуваю
Іх калючы дотык.

## Рабіна

Сярод модніц
Нарачанскае краіны,
Хто зраўняецца
З красуняю-рабінай?

То ў вясковай
Белай квецені-хусцінцы,
То ўся летам
У зялёных завушніцах;

То ў асенні час
Пад лістападам хмарным
Палымнее такім
Полымем янтарным,

Да якога лятуць
Птушкі ўсе пагрэцца,
Ад якога — калі глянеш —
Светла ў сэрцы.

## Рэабілітацыя

Пасля таго,
Як рэабілітавалі
Мой род вялікасны
Патомных хлебаробаў,
Асуджаных за тое,
Што ў іх гербах
Былі аднаасобніцкія
Сохі і сярпы,
Сякеры, калаўроты
І нашы беларускія
Цымбалы-самагуды,—
Дзён лепшых дачакалася —
І пакараная за нейкі опіум,
Якога нат не бачыла ніколі,—
Старая, тысячагодняя
У маім сяле
Цэркаўка.

Сягоння зноў прыбралася яна,
Як на вялікдзень,
Уздзела крыжаносны купал,
Прытвор ачысціла
Ад гандляроў і фарысеяў,
І кліча звонам багамольным
Вярнуцца
З усіх лагераў і ссылак
Сваіх дзяцей — жывых і мёртвых —
Сваіх святых,
Каб занялі належныя ім месцы
На незагоеным яшчэ
Ад тапароў і куль
Іканастасах.

## Жывая вада

Як сведчаць хронікі,
Легенды, казкі.
Калісьці з-пад зямлі
У нас білі
Цудадзейныя
Жывой вады крыніцы,
Якой, апырскаўшы,
І мёртвыя героі ажывалі.

О, колькі трэба б
З небыцця вярнуць
Мне блізкіх і сяброў!

Бяда, што зараз на зямлі,
Дзе не прыгубіш —
Мёртвая вада.
А той, жывой,
Я не магу знайсці,
Хоць і пытаўся
У звяроў і птушак,
У вятроў і дрэў
І ў сонца.

●

Колькі, Маці-Зямля,
Узгадавала дзяцей
Шматмоўных, рознакалёрных,
І ніхто з іх цябе
Не пакрыўдзіў
І не спустошыў
Як чалавек.

Ажно цяжка паверыць,
Што ён жа — твой сын,
А не з Космасу нейкі
Чужынец-прыблуда.

## Над чарговым спісам узнагароджаных

Розныя ўзнагароды,
Граматы, званні...
А ці тым,
Хто сапраўды іх варты, уручаюць?
І мне свае ўзнагароды
Трэба будзе на радаўніцу
Паразвешваць на крыжах,
На плітах,
На соснах,
Пад якімі спяць:
І мой дзед Хведар —
Патрыярх роду,
Ратай, паляўнічы,
І бабка Ульяна —
Бяссонная вартаўніца
Дамашняга ачага і ладу,
І мой бацька Янук —
З сукаватымі на руках мазалямі
Ад плуга, касы, тапара,
І маці-Домка
Скручаная пякельнай працай,
Трывогамі і маленнямі
За нас, грэшных.

Мо хоць на тым свеце
Была б для іх,
Ардэнасцаў,
Нейкая палёгка.

●

Цвярозы розум!
Не хапала мне
Яго ў палётах, пошуках юнацкіх.
Цяпер часцей наведвае мяне,
Хоць не заўсёды рад яму,
прызнацца.
Бо для мяне славуты гэты розум
Залішне недаверлівы, цвярозы.

## У ліўні веснавым

Пад музыку грымот
Па лужынах двара
Танцуюць пузыры
Дажджу і дзетвара.

Раскрыўшы парасон,
Бягу, каб іх суняць,
Ды дзе там, калі так
Забыўся танцаваць,

Каб з галавы да ног,
Каб з ног да галавы
Усяму і ў громе быць
І ў ліўні веснавым.

## Карыятыды

Які непрадбачлівы дойлід
Мог карыятыдам даверыць
Трымаць велізарны франтон?!
Няўжо ён не ведаў,
Што кожная з іх,
Як любая з жанчын,
Можа некалі збегчы
Ў цырульню паправіць прычоску,
Ці на патанцульку.
Таму гэты пышны
Барочны палац
Па другой старане вуліцы
Абыходжу заўсёды.

## Іудавы сярэбранікі

Усё жыццё
Чорт-нумізмат збіраў
Дукаты, драхмы,
Шылінгі, дынары,
Пакуль пад дрэвам смерці
Не падняў
Іудавых
Сярэбранікаў пару.
Усцешыўся...
Ды, раптам, дзіка ўзвыў,
Нібы схапіла
Вогненная зяпа.
Цяпер сядзіць, залезшы пад абрыў,
І дзьме на свае
Спаленыя лапы.

●

Ва ўсіх грахах абвінавачваюць мак,
Хоць пурпуровасць тваіх вуснаў болей
Неміласэрная.
І я не знаю як
Мне сваё сэрца ўратаваць ад болю,
Бо не знаходжу ні ў табе патолі,
Ні ў вогнішчы, якім палае мак.

●

Пень крывавіць зламанай сасонкі,
Ей нямала вясельных пярсцёнкаў
Падарылі гром, дождж і віхор,
Закаханыя ў стан яе гонкі,
У каралеўскую крону да зор.
Ды аднойчы прыехаў у бор
І засватаў красуню тапор.
Зараз толькі ў спёку і сцюжу
Тут адзін крукач кружыць і тужыць.

## Дзе яны?

Шукалі злачынцаў у Эрэбе,
Каб іх прыцягнуць да расплаты.
А іх — там няма.
Яны — ў небе
Па бюракратычнаму блату
Пірують у райскіх палатах.

●

Цяпер тут новую
Дарогу правялі,
Без розных скрыжаванняў,
Заблытаных аб'ездаў,
Чортавых калдобін,
Хісткіх кладак,
На іміжарнай грэблі,
Дзе шмат заўжды было
Дзівосаў, нечаканасцяў.
Адно, не ведаю, чаму
І сёння я люблю
Дамоў вяртацца
Даўняю дарогай.

## Цёмнай ноччу

Мо і не было б
Такою цёмнай ноч.
Ды, знаць, на вадапоі
Усе перакапыціді зоры
І выпілі месяц.

Мо спынімся і пачакаем
Пакуль
Не прарэжацца золак.

## Шчаслівы дзень яднання

Магчыма,
Сярод тых,
Што прыйдуць развітацца
І пажадаць, каб зямля
Мне лёгкаю была,
Будуць і тыя,
Што ўсё жыццё
Мне кідалі
Пад ногі валуны,
О, мір табе,
Шчаслівы дзень яднання!

## Другая старана люстэрка

Малыш,
Убачыўшы сябе ў люстэрку,
Шукае,
Што на старане другой?

А я, дзівак, не здагадаўся
Ніколі пацікавіцца,
Што за слязамі, радасцю,
Спагадаю, усмешкай,
Няпрыязню і дружбай
Адбілася
На старане другой
Люстэрка.

●

Цяжэй за ўсё гаварыць
Ні з дрэвамі і птушкамі,
Ні з вадой і агнём,
Ні з ветрамі і аблокамі,—
А з чалавекам.
Бо нават калі ён
Гаворыць тое самае,
Што і ты,
Гэта можа быць зусім
Што іншае.

●

Я люблю ранні час,
Калі з шумам і спевам,
Пасля зімняга сну
Прачынаюцца дрэвы,

І сяброў і сяброўак
Сваіх аклікаюць,
Ды пра сны, што ім
Сніліся, апавядаюць.

І хоць я з малых дзён
Спасцігаю іх мову,
Шумы і перашумы,
Чараванні, замовы,—

Толькі ўсе іх пазнаць,
Можа, з часам пазнаю,
Калі стану і сам
Дрэвам роднага краю.

●

Учора сустрэўся з Кашчавай
І грамадой дзяцей.
(Цяпер я часта
Страчаюся з ёю).
— Куды ты іх вядзеш, вар'ятка?
— Далей ад Чарнобыля...
У мяне і без іх
Клапот хапае.

І, ўскінуўшы на плечы
Касу маладзіка,
Патанула ў вячэрняй імгле.

●

Дзіўна, што нат
Радыёантэны,
Шукаючы жыцця ў сусвеце,
Дагэтуль не патрапілі
На нейкі яго след.
Я сам не раз,
Выразна ў цішыні начной
Чуў адгалоскі
Зорнай калыханкі.

●

Шчасця ўсім, хто рупны,
З зары да зары
Не марнуе часу
Залатой пары.

Хто не засмучае
Закаханых воч,
Што гараць і сонцам
Азараюць ноч.

Хто ў лясы, дубровы
Ці на сенажаць
Ходзе з любай кветку
Папараць шукаць.

Толькі не хадзіце
У жыта на начлег,
Бо ламаць калоссе —
Найвялікшы грэх.

## Цвік

Гэта быў
Яшчэ неіржавы,
Незбухтаваны
І неўжываны цвік.
Ім можна было прымацаваць,
Адарваную выбухам снарада
Дошку да дзвярэй,
Увагнаць яго ў столь,
Каб падчапіць калыску,
Або — у сцяну,
Каб гаспадар
На ім мог павесіць
Свой аўтамат
З партызанскай папахай...

А гэты цвік
Убілі ў труну,
І ён думае,
Што па ім так
Безуцешна галосяць.

## Сава

— Каго ў паўночным лесе
Ты, Сава, шукаеш,
Пералятаючы з куста на куст?

— Нахабніка,
Што смее перадражніваць
Кугаканне маё.
Прыслухайся!
Што? Чуеш?
— Дык гэта ж рэха,
Мудрая сава.

— Якое рэха?!
Я гэтага яму
Усё роўна не дарую!

●

Хмары лятуць —
На ўсход і захад —
І зноў вяртаюцца.

Птушкі лятуць —
У вясну і лета —
І зноў вяртаюцца.

Песні лятуць —
Ад сэрца да сэрца —
І зноў вяртаюцца.

Вось толькі не знаю,
Куды лятуць
Дні і гады мае
І не вяртаюцца.

## Пахвала «гісторыі»

Надакучылі ўдарныя тэмы
У нашых п'есах, раманах, паэмах.
Толькі выпусціш на свет героя —
Як яго тармасіць пачынаюць.
Дастаецца і творцу за тое,
Што патрэб свайго часу не знае.
А патрэбы, прызнацца, — цяжкія,
Кожны тыдзень ці месяц — другія.
Вось і вабяць біблійныя годы
І гамераўскія падарожжы,
Фантастычныя бітвы, прыгоды,
У якіх чорт ногі выкруціць можа.
Пішуць, быццам, Смургонскі князь
Дзедзя
Любіў ездзіць на п'яных мядзведзях,
А яго сын — Крывая Дубіна
Быў асветнікам і патрыётам,
Хоць пісаў на зняволеных спінах
Пра заслугі свае і турботы.
Спрытам славіўся, быццам лісіца.
Як нашчадкам не паганарыцца!
Ласы быў на дзявочыя ножкі...
Скуль узяў гэта аўтар — не знаю.
Не сядзеў жа ў час гэты пад ложкам.
А княгіня — якая святая! —
Нават мужу ў дзень посны, бывала,
Паскароміцца забараняла
Ні ядой, ні сваім мілаваннем...
Не, і мне марнаваць талент годзе,
Ды як дурню чакаць на прызнанне.
Лепш нырну і я ў бездань стагоддзяў,
Калі прашчур мой будучы скальдам
Шаткаваў крыжакоў пад Грунвальдам.

## Эпітафія на валуне

Гэта месца кожны знае,
Абмінае, аб'язджае.

Бо ляжыць тут злыдзень люты,
Што шмат гора прынёс люду.

Як хавалі, з ведзьмай-краляй
Чэрці гульбішча спраўлялі.

Долы зрылі капытамі,
Абламалі лес рагамі.

Напіўшыся дурнап'яну,
Не пачулі нат як рана

Пеўні тройчы пратрубілі.
І страхоццямі застылі.

Хто ў падскоку, хто ў падлёце,
Хто зарыўшыся ў балоце...

Таму тут — крый цябе божа —
Не спыняйся ў падарожжы.

## Гутарка з Т. Бароўскім

Я, можа б, запярэчыць мог,
Пераканаць у адваротным
Цябе, паэт шляхоў-дарог
Пакутлівых і беззваротных.
Бо пагадзіцца не магу,
Што застануцца наастатку
Пасля нас некаму на глум
Жалезны лом ды смех нашчадкаў.
Хоць часта сам я задаю
Пытанне, што гады не сцёрлі:
Ці быў патрэбен у баю
Наш хрыплы спеў з крывёю ў горле.

## Чаму настаў вечар

На расчыненай раме
Майго вакна
Да сну рыхтуецца ластаўка.
Адзін прамень
Заходзячага сонца
Схавала пад адно крыло,
Другі — пад другое.
А трэцім думала пабавіцца,
Ды, як камара, праглынула...
І настаў вечар.

---

Ганарар за вершы аўтар просіць пералічыць на рахунак 707801 «Дзеці Чарнобыля».

**Паважаны рэдактар! У мінулым годзе пры друкаванні ў «Полымі» (№ 9) маіх нататак «Кожны шукае сябе» не па віне рэдакцыі быў скарочаны іх тэкст. Я дасылаю ў «Літаратуру і мастацтва» тыя старонкі. Як не хацелася б падліваць алею ў агонь па цяперашнім неспакойным часе, аднак сведчанні і адышоўшых ад нас людзей таксама маюць права на галоснасць.**

**Іван ЧЫГРЫНАЎ.**

# Так яны вырашалі...

ДЗЕНЬ дванаццаты. Не часта даводзіцца бачыць у дарозе сны. Прынамсі, са мной гэта сапраўды не часта здараецца. І сон пра «радыяцыю» — гэта таксама не сон быў у пэўным значэнні. Хутчэй, хваравіты кашмар, ці што. А сёння чамусьці прыснілася раптам сястра Волька... Памерла яна зусім маленькай, адразу пасля вайны. Жылі мы тады ў зямлянцы (трэба сказаць, што ў зямлянцы наша сям'я жыла доўга пасля пажару сорак трэцяга года, калі, адступаючы, немцы спалілі вёску; жылі ў зямлі да пяцьдзесят першага года...). Была восень, дажджлівая, таму амаль заўсёды цёмная, тым больш, калі ўвесь час знаходзіцца ў зямлянцы з адным маленькім акенцам. А Волька хварэла. Сядзела звычайна на краі печкі, звесіўшы над тапчаном худзенькія ножкі, і ўсё клікала: «Клоў, клоў!..» Чакала, бедная, пакулв прыгоняць з пашы кароў. Многа чаго забылася з тае пасляваеннае пары, сцерлася з памяці, вылецела з душы, а гэта вось — як жывое. Здаецца, я нікога гэтак не шкадую і не шкадаваў са сваіх братоў і сясцёр, як тае маленькай дзяўчынкі, якой не прыйшлося жыць...

Па балгарскім тэлебачанні паказвалі пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, дзе разглядалася пытанне пра Нагорны Карабах.

Не помню ўжо, ці быў у старых нашых канстытуцыях параграф, на які спасылаліся многія прамоўцы (акрамя армян), што граніцы саюзнай рэспублікі можна змяніць толькі са згоды гэтай рэспублікі...

А я ўспомніў у сувязі з гэтым колішнія размовы свае з П. К. Панамарэнкам. Ён тады жыў у Маскве, быў у апале. І якраз тады ж мы з В. Чацверыковым рыхтаваліся здымаць фільм «Руіны страляюць...». Знайшліся справы да былога першага сакратара ЦК КПБ, Старшыні Савета Міністраў, а найбольш — да начальніка Цэнтральнага штаба партызанскага руху і ад часопіса «Полымя», дзе я працаваў. Дык вось аднаго разу і паехаў я ў канцы шасцідзесятых гадоў у Маскву — і па справах фільма, і па справах часопіса: мы, у часопісе, хацелі мець ад Панамарэнкі ўспаміны; Чацверыкоў з І. Новікавым далі сваё заданне. Дазваніўся я да Панцеляймона Кандратавіча хутка. Але той чамусьці паставіўся да майго званка насцярожана. Я ўжо і надзею быў страціў сустрэцца. А ў маладыя гады неяк страшна было не выканаць заданне людзей, якія на цябе спадзяваліся, тым больш — рэдакцыі з сур'ёзным рэдактарам. Аднак увечары Панамарэнка сам пазваніў у гасцініцу. Запрасіў на Кутузаўскі праспект, дзе жыў тады. Сказаў, картавячы: «Добра, прыязджайце, пагляджу, якія вы там цяпер выраслі, маладыя беларусы. А то я больш ведаю з пісьменнікаў Крапіву, Броўку, Лынькова, Куляшова, Танка». Застаўся я ў гасцях на ўвесь вечар. Шмат пра што мы гаварылі. Здаецца, сёе-тое з тае нашай размовы апынулася нават у маіх запісах. Цяпер жа, у сувязі з пасяджэннем Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, на памяць перш за ўсё прыйшло вось што. «Паклікаў мяне аднойчы ў Маскву Сталін, — расказваў Панамарэнка. — Прыязджаю. А там, у кабінеце Паскробышава, ужо Хрушчоў чакае. Сеў і я ў крэсла. Чакаем абодва. Нарэшце сходзіў Паскробышаў да Сталіна, запрашае нас. Сталін павітаўся, кажа: «Мікіта Сяргеевіч сцвярджае, што паміж Украінай і Беларуссю недакладна граніца праходзіць». «Дзе?» — пытаюся я. «На Палессі», — кажа Хрушчоў. Сталін падышоў да карты, што ляжала на стале, гаворыць: «Пакажы». Хрушчоў, доўга не думаючы, паказвае на зялёны масіў. Я пачынаю хваляваццa, даказваю, што гэты раён і гістарычна, і этнічна заўсёды належаў Беларусі. Хрушчоў круціць галавой, аспрэчвае, Сталін слухаў нас, слухаў, тады кажа: «Прызнайся, Мікіта Сяргеевіч, ты гэта задумаў, каб лесу Украіне дадаць?» Хрушчоў, відаць. не чакаў такога павароту справы, тут жа падхапіў: «Так, таварыш Сталін, трэба нам лесу трохі перадаць. У Беларусі яго багата, а ў нас мала». Сталін паглядзеў на мяне, усміхнуўся: «Трэба, Панцеляймон, паступіцца беларускім лесам». Узяў аловак, паглядзеў на той зялёны масіў, на які паказаў Хрушчоў, адкрэсліў. «Хопіць?» — спытаў Хрушчова. «Так, таварыш Сталін!» — узрадаваўся Хрушчоў. Я паглядзеў на карту — выходзіла, што да Украіны такім чынам быў прырэзаны цэлы Жабчыцкі раён».

Вельмі проста тады вырашаліся важныя справы!..

Таксама без аніякага ўскладнення было вырашана пытанне ў 1940 годзе з некаторымі раёнамі Гродзенскай і Віцебскай абласцей — адным росчыркам пяра іх перадалі Літве і Латвіі, але ўжо з другой прычыны: у 40-м годзе адбылося далучэнне цяперашніх прыбалтыйскіх рэспублік да СССР; і вось Сталін паклікаў зноў Панамарэнку ў Крэмль. «Каб не абвінавачвалі нас у анексіі прыбалтыйскіх тэрыторый, — сказаў Іосіф Вісарыёнавіч, — трэба самім зрабіць крок наперад — аддадзім некаторыя вашы раёны Літве і Латвіі».

Штосьці падобнае адбылося і ў часе вайны: дзелячы паміж Польшчай і СССР Усходнюю Прусію, Сталін вырашыў зрабіць гэта за кошт Беларусі — аддаць Беластоцкую вобласць...

Прынамсі, так пра ўсё гэта расказваў П. К. Панамарэнка.

# ЎСЁ ПАЧАЛОСЯ З ІМПРАВІЗАЦЫЙ...

**Сярод маладых беларускіх кампазітараў слухачы ўжо, безумоўна, заўважылі імя Сяргея БЕЛЬЦЮКОВА. У свае 33 гады ён аўтар многіх камерна - інструментальных, вакальных, сімфанічных твораў, музыкі да драматычных спектакляў, кінафільмаў; эстраднай музыкі.**

**Дыялог з кампазітарам вядзе яго калега Алег ЗАЛЁТНЕЎ.**

**Алег ЗАЛЁТНЕЎ. Сяргей, параўнальна нядаўна адбыўся X з'езд кампазітараў Беларусі. Для цябе гэта першы з'езд, на якім ты быў не пасіўным назіральнікам, а раўнапраўным удзельнікам як член кампазітарскага саюза. Твае ўражанні?**

**Сяргей Бельцюкоў.** Незабыўнае адкрыццё, на якім не сабраўся кворум! Такая абыякавасць з боку калег магла шакіраваць любога, ды асабліва маладога кампазітара. Шчыра кажучы, для мяне гэта было нечаканасцю. Я прысутнічаў і на папярэднім з'ездзе. Як мне падалося, ён прайшоў больш актыўна.

**А. З. Што ж здарылася цяпер? Вось ты як малады кампазітар яшчэ здатны «свежым вокам» ацэньваць сітуацыю...**

**С. Б.** Хутчэй за ўсё, такую незацікаўленасць спарадзіла атмасфера агульнай абыякавасці, незадаволенасць вынікамі дзейнасці саюза. На мой погляд, гэта звязана з адсутнасцю дакладнай праграмы прапаганды музыкі. Напрыклад, для маладога кампазітара самае важнае — публічнае выкананне твора, а не тое, што за яго атрымаеш або якія будуць водгукі.

**А. З. Ну, вядома, водгукі можна сабраць. Заўсёды знойдуцца людзі, якія ўхваляць твой твор. І тут я з табой згодны. Галоўнае для творцы — жывое гучанне музыкі. Але згадайма з'езд. На ім была прадстаўлена ёмістая праграма з твораў амаль усіх членаў саюза...**

**С. Б.** І гэта — традыцыйна. Кіраўніцтва саюза па-ранейшаму намагалася ўключыць у праграмы ці не ўсіх жадаючых. Я лічу, што гэта няправільна. У канцэртах павінны быць прадстаўлены творы найбольш удалыя, адзначаныя грамадскім прызнаннем.

**А. З. Але, пагадзіся, у нашым саюзе грамадскае прызнанне — вельмі эфемернае паняцце. Твор, як правіла, выконваецца адзін раз і не заўжды на адпаведным якасным узроўні. Калі ж мы гаворым пра грамадскую думку, дык маем на ўвазе ацэнку шырокага слухача. Бывае ж, што ацэнка ад імя слухача даецца ў вузкім коле, у сценах саюза. Ці не праз гэта — частыя памылкі?**

**С. Б.** Складанае пытанне... Я, напрыклад, лічу, што да грамадска прызнаных можна аднесці творы, адзначаныя, дапусцім, на розных конкурсах. А ў нас жа бывае: твор заваёўвае лаўры ўсесаюзнага конкурсу, ды гэта не лічыцца паказчыкам яго прызнання.

**А. З. Сяргей, ты адзін з нямногіх нашых калег, хто наведаў практычна ўсе канцэрты з'езда, і не мог не заўважыць, што залы былі напаўпустыя, а часам выканаўцаў было болей, чым публікі. На маёй памяці гэта быў чацвёрты з'езд, але такога дэмаршу з боку слухачоў я не памятаю.**

**С. Б.** Калі на першым кампазітарскім пасяджэнні не сабраўся кворум, дык што казаць пра канцэрты! Аўтарытэт жа свой Саюз кампазітараў згубіў не раптам. Пастаянныя звягі, падзел на групоўкі, высвятленне адносін зацягваюць у багну нейкай бясплённай валтузні, скіроўваюць увагу да дробязных праблем. Мабыць, гэта звязана і з пэўнымі тэндэнцыямі, што ўзніклі ў цяперашнім грамадстве.

**А. З. Згодны. Аднак вернемся да з'ездаўскіх канцэртаў. На мой погляд, яны былі перанасычаныя настолькі, што мы нават не змаглі ні абмеркаваць іх, ні засяродзіць увагу на прынцыповых творчых праблемах нашай арганізацыі. Трэба карэнным чынам мяняць самую форму правядзення з'ездаў. Час парадна - справаздачных канцэртаў мінуў. З'езд — гэта форум, дзе павінны падсумоўвацца вынікі, вызначацца перспективы. А канцэрты?.. Яны маюць зрабіцца нормай штодзённага творчага жыцця. Што замінае нашаму саюзу праводзіць фестывалі: сучаснай беларускай музыкі, творчасці маладых, музычнай спадчыны?**

**С. Б.** Што замінае? Адсутнасць кантакту з выканаўцамі. Адных высілкаў мастацкага кіраўніка філармоніі Ю. Гільдзюка яўна недастаткова. Саюз павінен знаходзіцца ў пастаянным кантакце з музычнымі калектывамі, быць зацікаўлены ў стварэнні новых выканаўчых калектываў і непасрэдна ўдзельнічаць у фарміраванні канцэртнага рэпертуару. На жаль, наш саюз цяпер заняты сваімі ўнутранымі праблемамі. Вось, напрыклад, у Віцебску праходзіў фестываль, прысвечаны Салярцінскаму. Ініцыятарам быў малады ансамбль «Класік-Авангард». Ведаю, што музыканты звярталіся да кіраўніцтва саюза па дапамогу, ды, на жаль, іх там не зразумелі. І гэткі прыклад не адзінкавы. Баюся, што неўзабаве музыканты наогул перастануць іграць музыку беларускіх кампазітараў.

**А. З. У такім разе — а ці патрэбны Саюз кампазітараў увогуле?**

**С. Б.** Патрэбны. Перш за ўсё

# «БАЧЫЦЬ, АДЧУВАЦЬ, ВЫКАЗВАЦЬ»

**Накід творчага партрэта кінарэжысёра Валерыя РУБІНЧЫКА**

Валерый Рубінчык — чалавек іранічны, высокіх слоў не ўхваляе, ды і не спешчаны імі. За шматгадовае наша знаёмства я зразумела: галоўнае, на што ён разлічвае ў адносінах паміж людзьмі,— гэта паразуменне.

Душэўная маладосць і энергія, свядомы разлік і натхнёная фантазія, страсць да нястрымнага прыдумвання і вынаходніцтва — усё гэта шчодра намешана ў яго характары. Прырода не паскупілася, надзяліўшы яго пастаянным жаданнем працаваць, цікавасцю да жыцця і людзей, уменнем назіраць. Ён усё выяўляе такім, якім яму гэта здаецца. Карыстаючыся формулай братоў Ганкур «бачыць, адчуваць, выказваць — вось усё яго мастацтва», можна сказаць, што свет фільмаў Рубінчыка — у стане несупыннага руху. Тое, што здавалася відавочным, простым і ясным, імгненна пераўтвараецца, аказваецца ілюзіяй: уяўнае — праўдападобна, а рэальнае можна палічыць за ўяўнае. З глыбіняў сваёй свядомасці, дзе і захоўваецца забытае, ён здабывае дробязі і дэталі; стварае канкрэтны свет зрокавых прыкмет, паказваючы іх так, што ўзнікае тая ступень няпэўнасці, размытасці, што, уласна, і з'яўляецца яго мастацкім прыёмам, стылёвым вырашэннем. Магчыма, рэжысёра можна назваць імпрэсіяністам, паколькі ён перадае нам хутчэй асабістыя ўражанні, уяўленні ад рэальнасці. (Ва ўсялякім разе, мне так здаецца.)

Усё творчае жыццё рэжысёра Валерыя Рубінчыка на кінастудыі «Беларусьфільм» змясцілася ў сем фільмаў, яшчэ два зроблены за межамі роднай кінастудыі. «Апошняе лета дзяцінства», «Магіла льва» і «Гамлет Шчыгроўскага павета»— тэлевізійныя, «Вянок санетаў», «Дзікае паляванне караля Стаха» (якi адзначаны мноствам узнагарод на міжнародных кінафестывалях), «Культпаход у тэатр» і «Адступнік»— усё гэта фільмы, пра якія пісалі, спрачаліся, якімі захапляліся, якія лаялі ці падкрэслена не заўважалі.

Жыццё рэжысёра Валерыя Рубінчыка складвалася няпроста, у абставінах, якія не заўсёды садзейнічалі свабоднай творчасці. Але дух яго заўсёды быў свабодны. Матэрыял фільмаў ён не заўсёды выбіраў сам, але заўсёды перарабляў, пераасэнсоўваў па ўласным разуменні. Планаў у яго заўсёды было даволі, але не ўсе яны па логіцы «застойнага» часу маглі рэалізавацца.

У творчым жыцці рэжысёра было шмат розных дзіўнасцей; вакол ягоных фільмаў — таемных недагаворанасцей. Помніцца, маю рэцэнзію на фільм «Культпаход у тэатр» таемны нехта загадаў зняць з паласы «Знамени юности» ў самы апошні момант. Так і захоўваецца ў мяне тэхнічны адбітак...

Мо таму яго заўсёды пэўным чынам «вучылі жыць», некуды выклікалі, намякалі: маўляў, што ён здымае не зусім тое, што неабходна роднаму кінамастацтву; што чакаюць адно— дык чаму атрымліваецца зусім іншае?.. Фільмы абмяркоўвалі, перакройвалі на свой лад, тлумачылі, як іх зрабіць прасцейшымі і больш зразумелымі. Але рэжысёр стаяў на сваім і зноў забіраўся ў заваблачныя вышыні мастацкіх пошукаў.

На аглядзе беларускіх фільмаў, дзе ўдзельнічаў «Адступнік», рэжысёру ўвагі не надалі, хоць усялякія прызы і дыпломы аддалі ўсім, хто працаваў над карцінай. Аператар Юрый Ялхоў, прымаючы прыз, збянтэжана заявіў, што ён падзяляе яго з рэжысёрам. Ужо Ялхоў, як ніхто іншы, ведаў, як нараджаўся «Адступнік». Цяжка ўявіць, які сэнс укладаюць у нас у паняцце рэжысуры, калі ўсё прыдумае і прадумае рэжысёр, а потым яму ў гэтым адмовяць.

Фільмы Рубінчыка сапраўды могуць не падабацца, але адмовіць ім у самастойнасці, індывідуальнасці, самабытнасці цяжка. За рамкамі сюжэта хаваецца заўсёды значна больш, ды і сам сюжэт як бы размыкаецца, дзівосна трансфармуецца, на яго напластоўваецца мноства ледзь улоўных уражанняў, вобразаў, пераўтварэнняў.

Думаецца, што ўсе фільмы рэжысёра — асабістыя, усе яны — пэўным чынам пра яго самаго, пра тое, што яго займала ў перыяд здымак і роздумаў, пра яго боль... Фільмы прасякнуты далікатным і кранальным адчуваннем жыцця,

# ВЯРТАЕМСЯ НА КРЭСЫ ?

**З нагоды аднаго інтэрв'ю Прымаса Польшчы**

Што ні кажы, а мы па-ранейшаму адрэзаныя ад свету. Цікавыя, з пункту гледжання беларуса, публікацыі даходзяць са спазненнем. Гэтак было і з інтэрв'ю Прымаса Польшчы кардынала Юзафа Глемпа. Апублікавана яно ў апошнім нумары квартальніка «Pod znakiem czasu» за 1988 год, а трапіла ў Мінск нядаўна. І тым не менш за гэты час выказванні Яго Эмінэнцыі не страцілі актуальнасці, падбіваюць на палеміку, бо адбыліся значныя перамены ў жыцці Польшчы і Беларусі.

Летась у суседняй краіне прайшлі выбары ў сейм і сенат. Да ўлады прыйшла «Салідарнасць», прасякнутая каталіцкім духам, прэм'ер-міністрам прызначаны шчыры католік Тадэвуш Мазавецкі. Што яднае яго з прэзідэнтам-камуністам? Скажам так: польскі патрыятызм. Выбары праводзіў камуністычны ўрад. Беларусы Беласточчыны спадзяваліся мець сваіх прадстаўнікоў у вышэйшым органе заканадаўчай улады. Але арганізатары выбараў распалавінілі беларускія землі ў Польшчы на дзве акругі. І ў той і ў другой беларусы сталі меншынёю. Такая акцыя ўраду не была для мяне дзівам, бо ўжо даводзілася чытаць у «Трыбуне Люду», што Фёдар Дастаеўскі і продкі Дзмітрыя Шастаковіча — землякі аўтараў цэнтральнай партыйнай газеты. А аўтары тыя ці то з Варміі, ці то з Мазовіі. І яны, і, трэба думаць, рэдакцыя ні на хвіліну не сумняваліся, што Піншчына і Вілейшчына — польскія землі. Атмасфера выбараў на Беласточчыне была азмрочана і дзейнасцю рымска-каталіцкага духавенства, якое вяло агітацыю супраць беларускіх кандыдатаў, якое здолела так апалячыць беларусаў-католікаў, што яны вялі сапраўдную псіхалагічную вайну супраць сваіх адзінакроўных братоў-праваслаўных.

Летась 25 ліпеня Папа Рымскі Ян Павел II прызначыў ксяндза Тадэвуша Кандрусевіча Апостальскім Адміністратарам Мінскім, паднёсшы яго да годнасці біскупа, а 20 кастрычніка ў базыліцы Св. Пятра ў Рыме адбылася біскупская кансэкрацыя. Святы Айцец звяртаўся да мансеньёра Тадэвуша ў італьянскай і беларускай мовах. Гэта адзначылі ўсе. На якой жа мове адказаў Яго Святасці Апостальскі Адміністратар Мінскі? Пра гэта ўсе маўчаць. Нават айцец Аляксандр Надсан, які меў гонар і абавязак прысутнічаць на ўрачыстасці, анічога не паведаміў пра гэта ў № 3(8) «Весьніка Беларускага Каталіцкага Душпастырства».

Працытаваўшы ксяндза Уладзіслава Чарняўскага, яго ліст «Беларусаў не спыталі...», змешчаны ў «ЛіМе» 27 кастрычніка 1989 года, а. Аляксандр піша: «Нейкі жартаўнік параўнаў «перабудову» ў Савецкім Саюзе да тайгі: угары шум, а ўнізе цішыня... Тут не месца судзіць, наколькі трапнае гэтае параўнанне. Але часам маецца ўражанне, што беларусы ў падобны спосаб заглядаюцца на Каталіцкую Царкву: «угары» шумяць, Папа гаворыць па-беларуску, у Ватыканскім радыё ідуць беларускамоўныя перадачы, Рым зацвердзіў (у 1988 г.— **А. С.**) беларускі тэкст імшы і выдаў беларускі катэхізм, а «ўнізе» ўсё ідзе старым парадкам».

У той час, як Кангрэгацыя Абрадаў зацвердзіла Парадак Святой Імшы, на Беларусі з душпастырскім візітам знаходзіўся кардынал Юзаф Глемп. Яго запрасіў мітрапаліт Мінскі і Беларускі Філарэт, які з'яўляецца цяпер мітрапалітам Мінскім і Гродзенскім, Патрыяршым Экзархам усяе Беларусі, Старшынёю Сіноду Беларускай Праваслаўнай Царквы. Пра свае ўражанні з гэтага падарожжа Прымас Польшчы і апавядаў карэспандэнту квартальніка «Pod znakiem czasu».

У выніку размоў з праваслаўным духавенствам кардынал пераканаўся, «што мы (Каталіцкая і Праваслаўная Цэрквы. — **А. С.**) шчыра прагнем развіваць экуменічны дыялог, што мы хочам дабра нашым народам, што ў нашых Цэрквах няма нацыянальнага эгаізму...»

Экуменічны дыялог. На якой мове? Дабра «нашым народам». Якім — нашым? Вось гэтае апошняе — пра адсутнасць нацыянальнага эгаізму — ніяк не стасуецца з тым, што Прымас сказаў пазней. Успамінаючы пра душпастырскі візіт на Беларусь, кардынал гаворыць: «Мушу... падкрэсліць супрацоўніцтва польскіх дыпламатычных пляцовак,.. а таксама выказаць удзячнасць ужо існуючым клубам або грамадска-культурным таварыствам у Мінску і Гродне, якія арыентуюцца на польскую культуру і пра далейшае існаванне якіх клапоцяцца польскія дыпламатычныя пляцоўкі». Гаворачы аб душпастырскай службе для католікаў «па-за Літвой, па-за Латвіяй», Яго Эмінэнцыя на ўпор не бачыць беларусаў-католікаў. Кажучы пра Ліду і Навагрудак, Прымас згадаў, што гісторыя гэтых гарадоў «звязваецца з дзеямі літоўскіх князёў». І далей: «Супольнае змаганне з крыжакамі набліжала літоўцаў да палякаў. Былі таксама русіны, ну і вельмі шмат яўрэяў». Русіны (беларусы), калі верыць Яго Эмінэнцыі, былі тут нейкай ледзь не выпадковай групкай, затое палякі, літоўцы, яўрэі... І яшчэ: «Наведваў... касцёлы, пра якія можна сказаць, што ўжываецца ў іх польская мова. Варта адзначыць, што пытанне мовы вельмі далікатнае». І кардынал выяўляе сваю далікатнасць: «Беларуская мова **нейк** (падкрэслена мною.— **А. С.**) не прынялася ў літургіі ані з боку праваслаўнага, ані каталіцкага».

Візіт кардынала Глемпа быў заўважаны не толькі ў Польшчы і Рыме. Орган Рады Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, якая падпарадкуецца мітрапаліту Ізяславу, часопіс «Голас Царквы» (№ 62) пісаў: «Польская рымска-каталіцкая... акцыя ў Беларусі сяньня аднаўляецца».

**Беларусы за мяжою ўжо ўстурбаваліся актыўнасцю Польскай Каталіцкай Царквы. Ці заўважыў хто візіт кардынала Глемпа і яго гатоўнасць «несці Беларусі» дапамогу? Ці Беларусі? Прымас не ўстрымаўся, каб не згадаць, што ў часе візіту «дарога вяла нас праз даволі населеныя і ўтрыманыя ў добрым стане колішнія польскія тэрыторыі — у Ліду» (падкрэслена мною. — А. С.).**

**Кардыналу, мусіць, не хочацца ўспомніць, што гэта не колісь польскія, а колісь акупіраваныя пілсудчыкамі беларускія тэрыторыі. Яму, відаць, няёмка ўспомніць, што беларуская мова не прыжылася ў касцёлах не нейк, а менавіта дзякуючы намаганням пілсудчыкаў — і свецкіх, і ў сутанах. Мала таго, ён быццам і не ведае, што саму назву Беларусь забараніў «царь православный» Мікалай Першы, кат Польшчы, а яго сын, таксама кат, «благоверный государь император Александр Николаевич», забараніў беларускую мову. Дзіўная забыўлівасць! Якую ж такую дапамогу можа прынесці Польская Каталіцкая Царква і яе Епіскапат католікам на Беларусі, калі Прымас бачыць тут адно палякаў і «колішнія польскія тэрыторыі»? Няцяжка здагадацца.**

Нядаўна з групай маскоўскіх студэнтаў я быў у Нясвіжскім фарным касцёле. Вянчалі пару. Ксёндз гаворыць да нявесты па-польску. А вось малады не можа звязаць і двух польскіх слоў. І ксёндз знайшоў выйсце: загаварыў па-руску. З гэткім беларускім акцэнтам, што маскоўскія студэнты спыталі: «А чаму не па-беларуску?» Я адказаў: «Ён і па-польску не ўмее». Але па-беларуску ўсё-ткі не гаворыць, хоць парафіянкі ягоныя — звычайныя вясковыя цёткі, з якімі я добра нагаманіўся, цешачыся іх сакавітай беларушчынай. Уяўляю, як яны загамоняць пасля дапамогі Польскага Касцёла. Прыклад — Віленшчына, дзе пасля належнае апрацоўкі з боку ксяндзоў з'явіліся дзесяткі тысяч «палякаў». Страшна слухаць іхнюю «пальшчызну», бо мова сакральная не стала мовай побыту, роднаю, але, з другога боку, адарвала гэтых людзей ад родных беларускіх каранёў.

Дапамогі Польскага Касцёла Беларусі не трэба. Успомнім, як «дапамагаў» нам віленскі арцыбіскуп Ялбжыхоўскі. Гэта яго намаганнямі беларуская мова «нейк» не прыжывалася ў касцёлах, гэта ён аб'явіў Беларускую хрысціянскую дэмакратыю бальшавіцкай агентурай, забараняў ксяндзам і вернікам уступаць у БХД і выпісваць «Беларускую Крыніцу», гэта ён чыніў перасьледы беларускіх каталіцкіх святароў. Падабаецца гэта Епіскапату Польскай Каталіцкай Царквы ці не, але мушу сказаць: Польскі Касцёл у дачыненні да беларускае мовы працягваў палітыку царызму, а Сталін завяршыў тое, што ў дачыненні да беларускага каталіцызму пачаў рабіць Ялбжыхоўскі са сваімі памагатымі.

Стала так, што на Беларусі застаўся быў адзін беларускі ксёндз — вялебны айцец Уладзіслаў Чарняўскі, якому нават і пасля сустрэчы з Папам Паўлам VI, у часе якой Святы Айцец ухваліў дзейнасць вішнеўскага пробашча, даводзілася змагацца з пралатам Кучынскім за права адпраўляць набажэнства па-беларуску. Наіўны а. Уладзіслаў, шчыра працуючы над перакладамі царкоўных кніг, звярнуўся па дапамогу да былога ўпаўнаважанага Савета ў справах рэлігій Залескага, а ў адказ пачуў: «Нам не нужна национальная церковь». Думаю, што цяперашні ўпаўнаважаны гэтак не скажа: у нас, дзякуй Богу, ёсць Закон аб мовах, і выступіць супраць яго чыноўнік не мае права. Але Царква ў нас, кажуць, аддзеленая ад дзяржавы, і такім чынам мова Службы Божай вызначаецца царкоўнымі ўладамі, біскупам Тадэвушам Кандрусевічам у першую чаргу.

Айцец Аляксандр Надсан пытае: «Ці зможа Біскуп Кандрусевіч здабыць сэрцы беларусаў, нягледзячы на тое, што іхнія надзеі бачыць беларуса на біскупскім пасадзе асталіся няздзейсненымі?» На Беларусі, паводле няпэўных падлікаў, да 2 мільёнаў католікаў. Як мы ведаем, палякаў і апалячаных католікаў у нас тысяч чатырыста. Атрымліваецца, што да Рымска-Каталіцкае Царквы належыць сама меней паўтара мільёна беларусаў. Значыць, мы павінны на поўным сур'ёзе весці гутарку пра неабходнасць Беларускай Каталіцкай Царквы, пра неабходнасць навучання будучых святароў у беларускай мове, пра неабходнасць беларускага Епіскапату. Гэта тым больш неабходна таму, што нам збіраецца «дапамагаць» кардынал Глемп, які ўбачыў «польскія тэрыторыі» на Гродзеншчыне. Паколькі Царква ў нас аддзеленая ад дзяржавы і дзяржава нібыта не ўмешваецца ў яе справы, пытанне аб тым, каб Царква выконвала Закон аб мовах, павінна паставіць грамадскасць.

Вядома ж, шмат што залежыць ад святароў. Айцец Ян Матусевіч адпраўляе дзве Службы Божыя: адну па-беларуску, другую — па-польску. На першую прыходзяць моладзь і людзі сярэдняга веку, на другую — пажылыя парафіяне. Двухмоўе? А чаму б і не? Святарам патрэбны настойлівасць, мужнасць, бо ў нас ёсць большыя католікі, чым Папа. Дастаткова згадаць, як сустрэлі Апостальскага Візітатара а. Аляксандра Надсана і а. Яна Матусевіча пікетчыкі ля Чырвонага касцёла ў Мінску. Айцу Аляксандру яны закінулі, што ён не ўмее па-польску і жагнаецца «шчопаццю», а айцу Яну — што той вучыўся ў Загорску. Іх анітрохі не збянтэжыла, што першы з'яўляецца Апостальскім (Папскім) Візітатарам, а другі — рымска-каталіцкім святаром. Вось вынікі працы Ялбжыхоўскага і яго аднадумцаў. Як называецца той, хто большы католік, чым Папа? Мусіць, фанатыкам. У гэтага фанатызму мала агульнага з хрысціянскімі цнотамі, ад яго патыхае польскім шавінізмам.

**...У часе Службы Божай, якую адпраўляў а. Аляксандр, я ўпершыню ў жыцці адчуў: вось мая Царква! Узгадаваны ў вёсачцы, дзе ў адных сем'ях жывуць праваслаўныя і каталікі, маючы ў радні паслядоўнікаў абедзвюх канфесій, я чуўся несамавіта як у царкве, гэтак і ў касцёле, бо мова была не мая, не наша. Я стаяў у царкве, слухаў чытанне Евангелля і, ведаючы царкоўнаславянскую, пытаў: «Для каго чытаюць? Хто іх разумее? Ці так трэба несці Слова Божае?» Я сядзеў у касцёле і бачыў, як маладыя варушаць губамі, бо малітваў па-польску не ведаюць, а з малітоўніка прачытаць не ўмеюць. І думаў: «Чаму яны, беларусы, павінны ўмець чытаць па-польску? Чаму мае родзічы, таксама Сідарэвічы, запісаныя палякамі?» І вось у часе Службы, якую адпраўляў а. Аляксандр, малітвы, што гучаць у праваслаўнай царкве на мала каму зразумелай мове, загучалі па-беларуску. І я адчуў: вось мая Царква! Адчуў, бо ведаў да гэтага, што ўратаваннем для народа і мовы была Грэка-Каталіцкая Царква. Адна справа — ведаць, другая — прасякнуцца пачуццём...**

На а. Аляксандра напалі польскія і апалячаныя фанатыкі, на яго ўзвалі паклёп запісныя карэспандэнты атэістычных органаў, на сустрэчу з ім не прыйшлі праваслаўныя святары, якія ўважаюць сябе беларусамі. Ці не сімптаматычнае гэтае з'явішча? Так званая Беларуская Праваслаўная Царква — якая яна? Аўтакефальная? Аўтаномная? Не тое і не другое. Проста Экзархат, «наместничество». І не беларуская яна пакуль што. Ёй цяжка пераадолець выпрацаваныя звычкі. Даходзіць да таго, што свяшчэннаслужыцелі патрабуюць пісаць па-беларуску не **Ісус**, а **Іісус**. Дзеля чаго такі здзек з законаў мовы? Пытанне рытарычнае. Дзякуй Богу, што не могуць адмяніць польскае Езус, іспанскае Хесус... Тут, ведама, комплекс. У 1922 годзе Беларуская Праваслаўная Царква стала аўтакефальнаю. А потым, у 1925-м, мітрапаліта Мельхіседэка выслалі ў Сібір; у канцлагеры памёр Еан, епіскап Мазырскі (1927), у турмах — Мікалай Слуцкі (1931) і Філарэт Бабруйскі (1939). З жыцця пайшлі каля дзвюх тысяч духоўных асоб. І гэтым тлумачыцца небеларускае напісанне ў беларускім тэксце — Іісус.

...Нядаўна той самы мой знаёмец, што прывёз з Кракава квартальнік з інтэрв'ю кардынала Глемпа, атрымаў ліст з Польшчы. Адзін польскі пісьменнік піша: «Wracamy na kresy!» Жарцік? Калі жарцік, дык надта злавесны. Бачачы атакі на беларускі рух у Польшчы, бачачы польскія шавіністычныя праявы на Беларусі, бачачы гатоўнасць Прымаса Глемпа «несці дапамогу Беларусі», мы павінны насцярожыцца. Але не весці змагання з Каталіцкаю Царквою, а за Беларускую Каталіцкую Царкву, за беларускі Епіскапат, як, дарэчы, і за тое, каб Беларуская Праваслаўная Царква стала сапраўды беларускай. Іншага шляху няма.

**Анатоль СІДАРЭВІЧ.**

# БЕНЕФІС!

Не так часта сёння мы можам бачыць поўную залу на оперных спектаклях. У гэты ж вечар ДАВТ БССР быў поўны: аматары тэатра прыйшлі на сустрэчу з любімым выканаўцам. У оперы Д. Вердзі «Бальмаскарад» адбыўся бенефіс народнага артыста СССР Аркадзя Саўчанкі, прысвечаны 30-годдзю творчай дзейнасці артыста.

30 гадоў А. Саўчанка спявае на беларускай сцэне. І ў гэты вечар, як ужо многа гадоў дасюль, публіка зноў атрымлівала асалоду і ад яго высакароднага, прыгожага голасу, і ад яго акцёрскага майстэрства. Майстэрства гэтае выяўлялася не так у нейкіх знешніх сцэнічных рухах, як ва ўменні голасам перадаць найтанчэйшыя душэўныя перажыванні героя, што робіць А. Саўчанка заўсёды без фальшу, а вельмі арганічна. Зноў, у які ўжо раз, выявіліся ў спектаклі сапраўдная музычнасць і натхнёнае сэрца артыста.

За доўгі час працы на сцэне захаваць оперны голас, пачуццё акцёрскай праўды можа спявак, які мае не толькі выдатныя прыродныя дадзеныя, але ў першую чаргу выдатную «школу» (А. Саўчанка вучыўся ў цудоўных педагогаў-вакалістаў С. І. Мігая і А. І. Батурына), спявак, які многа, стала працуе (а ён выканаў галоўныя партыі ў операх В. Моцарта, Д. Расіні, Ж. Бізэ, Д. Вердзі, Ш. Гуно, П. Чайкоўскага, М. Рымскага-Корсакава, С. Картэса, Ю. Семянякі, Г. Вагнера, падрыхтаваў шэраг камерных праграм), нарэшце, спявак, які проста любіць тэатр, жыве ім.

Галоўнае патрабаванне опернай сцэны да спевака — заўсёды быць у ансамблі. Для гэтага недастаткова мець толькі поўнае тэхнічнае майстэрства, тут патрэбная высокая артыстычная этыка. Як адзначаюць калегі А. Саўчанкі па сцэне, цяперашнія і былыя, — ён выдатны партнёр, што, дарэчы, яшчэ раз прадэманстраваў на сваім бенефісе. Адзначу і іншых удзельнікаў спектакля, якія разам з А. Саўчанкам стварылі свята тэатра. Гэта салісты оперы Э. Пелагейчанка, Н. Казлова, Н. Руднева, Т. Глаголева, В. Чарнабаеў, А. Кеда, В. Гур'еў, У. Генералаў, Г. Чэпікаў.

Вярнуся да пачатку святочнага вечара. Тралейбус пад'язджаў да прыпынку «Оперны тэатр». Міжволі пачула размову дзвюх прыгожых сучасных дзяўчат: «А што сёння ў оперным? — запытала адна. — «Баль-маскарад» Вердзі. — І столькі людзей ідзе? — Сёння ж бенефіс Саўчанкі, спявае лепшы склад!» Дзяўчаты накіраваліся да тэатра. Падумалася: так, як ішлі ў гэты вечар «на Саўчанку», некалі будуць спяшацца ў тэатр і «на вучняў» выдатнага майстра. Няхай талент і майстэрства неаднаразова паўторацца ў вучнях Аркадзя Саўчанкі!

**Таццяна ПЕСНЯКЕВІЧ.**



# ХАЙ ВЕДАЮЦЬ ЛЮДЗІ

Барыс Сачанка

**Апавяданне-быль**

ТЭЛЕГРАМА прыйшла раніцою. З Нью-Йорка. «Памёр Мікола Залескі...»—прачытаў Адам Важнік. Зачыніўшы дзверы, вярнуўся ў пакой, дзе звычайна, калі не было ва універсітэце лекцый, працаваў. Стаяў некаторы час ля акна, глядзеў на яшчэ голае голле дрэў, што проста ўвачавідкі весялела, набухала пупышкамі—была якраз вясна, самы яе пачатак, потым, не выпускаючы з рук тэлеграмы, сеў за свой стол.

«Калі б гэта здарылася дзе-небудзь у нас, на пахаванне паехаў бы...—прамільгнула ў галаве.—А так... І разам з тым... Чалавек жа памёр... І калі давалі мне тэлеграму, дык пра нешта ж там, у Нью-Йорку, думалі... Можа, нават Мікола сам папрасіў пра гэта, калі яшчэ быў жывы... І мне... Нешта ж рабіць трэба... А што?..»

...Адам Важнік пазнаёміўся з Міколам Залескім у Нью-Йорку, калі быў там у складзе дэлегацыі на адной з чарговых сесій Генеральнай Асамблеі ААН. Неяк выдаўся вольны дзень і дыпламаты, выязджаючы на рыбалку, захапілі з сабою і яго, Адама Важніка, — не так рыбы палавіць, як адпачыць пасля бясконцых і даволі нудных пасяджэнняў. Ён, Адам, закінуў далёка ў возера вуду, а калі пацягнуў яе да сябе, то... Што ні рабіў, выратаваць вуду ніяк не ўдавалася—няйнакш, кручок зачапіўся за нейкую патырчаку. Вось тады і падышоў да яго незнаёмы, апрануты і абуты зусім не па-рыбацку—у светлы, добра адпрасаваны касцюм і амаль у новыя, бэжавыя туфлі, высокі, худашчавы чалавек і нешта сказаў па-англійску. Адам англійскай мовы не ведаў, і, вядома ж, не зразумеў, што яму гаворыць. Незнаёмец і раз, і два паўтарыў свае словы, а калі Адам і пасля гэтага нічога не зразумеў, чалавек вылаяўся, сказаў уголас, гэты раз па-беларуску: «І як яму растлумачыць, што трэба не цягнуць леску, а адпусціць, паспрабаваць тузануць справа ці злева». Адам усміхнуўся.

— Хто вы?—паглядзеў з цікавасцю на незнаёмца.—Няйнакш, родам з Беларусі?

Незнаёмец разгубіўся.

— І вы таксама адтуль?—спытаў ён і яго вузкі, чыста паголены твар яшчэ больш выцягнуўся.—Даўно вы ў Нью-Йорку?

— Другі месяц...—І, каб пазбегнуць непатрэбных пытанняў, дадаў:—Я—дыпламат, прыехаў на сесію Генеральнай Асамблеі.

— А я тут з вайны,—адказаў трохі збянтэжаны незнаёмец.—Завуць мяне Мікола, прозвішча—Залескі...

— А мяне—Адам, прозвішча—Важнік...—глядзеў, не спускаў вачэй з суайчынніка Адам.—Наогул, я гісторык, так сказаць, не прафесійны дыпламат. А вы, як вы апынуліся тут, у Амерыцы? У палон трапілі, ці... іншае што?..

— Доўга расказваць,—апусціў галава незнаёмец, які назваў сябе Міколам Залескім.

— А калі коратка?

— Коратка? У Нямеччыну мяне вывезлі... Ну, а калі вызваленне прыйшло, то я не вярнуўся ўжо дадому, у сваю вёску...

— Чаму?

— Прычына на тое была... Зноў жа—у двух-трох словах не раскажаш...

Мікола змоўк, як бы задумаўся. Потым, нібы нешта ўспомніўшы, спытаў:

— А вы адкуль з Беларусі, дзе нарадзіліся?

— Я з-пад Рагачова. На Дняпры вырас.

— Значыцца, мы землякі. Я таксама на Дняпры вырас. Можа, чулі, вёсачка там такая—Гай. Яна—непадалёку ад Жлобіна. Вось там я і нарадзіўся, сямігодку скончыў. Вядома ж з вудаю часта на Дняпры праседжваў. Божа, як хораша там у нас! Птушкі аж заліваюцца, трава, раса... Не, тут такога няма! Ды і рыбіне кожнай злоўленай як я рады быў! Есці ж не было чаго! А тут рыбы поўна ў кожным магазіне—бяры, смаж, вары, еш...

— Але ж усе адно на рыбалку ходзіце,—бачачы ў руках у Міколы складзеныя вуды і закрытае накрыўкаю вядзерца, сказаў Адам.

— Гэта хутчэй звычка з дзяцінства... Бо жыву я не бедна, маю сваю фабрыку, свой, як тут кажуць, бізнес. Ды і на прыродзе пабыць хочацца. Праўда, тут усё не такое, як у нас. Ды і возера гэтае... Толькі называецца так. На самай жа справе гэта рэзервуар, з якога Нью-Йорк бярэ пітную ваду... Зарыбілі яго, і вось знаходзяцца такія, як мы з вамі, што і на рыбалку сюды ездзяць. Але рыба тут не галодная. таму на кручок вельмі не бярэцца. Бывае, дзень прастоіш, а так нічога і не зловіш... Тыя, хто налавіць рыбы хоча, на акіян ездзяць. Дакладней, у заліў...

— Гэта далёка?—спытаў Адам Важнік, зацікавіўшыся.

— Не... Там, дарэчы, дача вашага прадстаўніцтва ёсць. Калі хочаце, я вас туды завязу. Вядома, не сёння...

— Не ведаю, як я вольны буду,—сказаў Адам Важнік, каб нейкім чынам апраўдацца, калі раптам пазвоніць Мікола: быў Адам у Нью-Йорку ўпершыню і не ведаў ні тутэйшых законаў, ні дыпламатычных тонкасцяў—што яму можна тут рабіць, а чаго нельга. Ды і Міколы ж зусім не ведаў, бачыў яго ўпершыню. Хто ён?..

— На ўсякі выпадак я вам пазваню,—паабяцаў Мікола. — Можа, нават у бліжэйшую суботу ці нядзелю...

— Дзякую,—кіўнуў галавою Адам, вельмі, вядома, не верачы, што Мікола яму пазвоніць ды і што яго, Адама, адпусцяць з незнаёмым чалавекам, хай і з земляком, у заліў лавіць рыбу, нават калі будзе і вольны.

Зачэплены за патырчаку кручок агульнымі намаганнямі быў вызвалены, і Адам з Міколам расталіся—Мікола, нарыбачыўшыся з самага досвітку, вяртаўся ў горад, а Адам застаўся на возеры...

Як і абяцаў, Мікола пазваніў нават не ў суботу, а ў пятніцу ўвечары, каб, як ён сказаў, спланаваць свой «уік-энд». Адам не гатовы быў адказаць што-небудзь пэўнае—не перагаварыў жа ні з кім, а таму і не меў дазволу на адлучку. Таму, выслухаўшы Міколу, папрасіў, каб ён перазваніў яму праз гадзіну.

Вядома, Адамава просьба адпусціць яго на рыбалку з невядомым нікому Міколам, выклікала перапалох. Ён жа, Адам, не прыватная асоба, а дыпламат. І раз'язджаць абы з кім невядома куды... Ды і хто гэты Мікола? Раптам недабіты фашыстовец і падрыхтаваў нейкую правакацыю... І з уладамі адпаведнымі трэба ж узгадняць кожны выезд за горад дыпламата, інакш «шпіянаж» прышыюць—з кім без ведама амерыканскіх улад сустракаецца на беразе заліва савецкі дыпламат... Парадак ёсць парадак, парушаць яго... Словам, каб нічога ніякага непажаданага не ўзнікла, было вырашана перанесці гэтую сустрэчу-рыбалку на наступны «уік-энд». І зрабіць усё ў адпаведнасці з законамі краіны—месцам прабывання дыпламатаў... Пра гэта і сказаў Адам Міколу, калі той праз гадзіну пазваніў.

— Ну што ж,—з расчараваннем у голасе прамовіў Мікола,—калі нельга выехаць на рыбалку ў заліў, дык я запрашаю вас да сябе дадому ў госці. Жыву я недалёка, таму, узгадняць з уладамі нічога ніякага не трэба. Заеду па вас заўтра раніцою гадзін у дзесяць і забяру...

Зноў у прадстаўніцтве быў перапалох, калі Адам расказаў пра новую сваю размову з Міколам.

— Што яму трэба? Чаму ён так за вас учапіўся?—пыталі ў Адама.

— Можа, што мы землякі?—казаў, бараніўся, як мог. Адам.

— Хе, ведаем такіх землякоў. Ім палец у рот не кладзі...

Але ўсё ж здаровы чалавечы сэнс узяў верх над эмоцыямі і перасцярогамі. І калі назаўтра Мікола прыехаў да прадстаўніцтва і пазваніў знізу, з прапускнога пункта, Адам Важнік выйшаў да яго цалкам сабраны, нарыхтаваны ў госці. Нават бутэлечку белавежскай з сабой прыхапіў. Адзінае, што Адам папрасіў Міколу—гэта пакінуць у прадстаўніцтве адрас яго дома і тэлефон.

Вадзіў машыну Мікола класна, і, праехаўшы па стракатых ад рэклам вуліцах і кварталах, мінуўшы два ці тры масты, мо праз якое паўгадзіны спыніліся ля прыгожага двухпавярховага дамка, што стаяў трохі ўбаку ад дарогі ў засені пажаўцелых, пазалочаных ужо восенню дрэў.

— Гэта і ёсць мой дом,—сказаў Мікола, вылазячы з машыны.—Я купіў яго год дваццаць назад... Даўно можна было б пераехаць і ў лепшы, але я прывык жыць тут...

— Якая ў вас сям'я?—спытаў Адам.

— У мяне жонка і дзве дачкі. Жонка руская, дачка былога белага генерала, што пасля рэвалюцыі ўцёк за акіян... Дочкі вучацца. Адна ва універсітэце, другая ў коледжы. Але сёння дома нікога няма—паехалі ў нейкае чарговае падарожжа. Прызнаюся вам, што з жонкаю ды і з дзецьмі жыву я няважна, нават думаю пра развод.. Прычына?.. Жонка глядзіць на мяне як на раба... Я павінен працаваць, забяспечваць яе ўсім неабходным і аставацца нікім. Да гэтага і дзяцей прывучыла. Усе яны транжыраць грошы, ну а я... Я іх зарабляю... Раней гэта быццам не так і заўважалася, а цяпер, калі я пастарэў... Мая мужычая, сялянская кроў бунтуе...

— Вы казалі, што маеце свой бізнес.

— Так, невялікую фабрыку. Яна вырабляе фарбы, якія карыстаюцца попытам, экспартуюцца ў многія краіны свету. Ну, і даюць, вядома, мне прыбытак. Раней я спрабаваў знайсці сабе прымяненне ў іншых галінах—у гандлі, быў каміваяжорам... Але ўсюды прагараў... У Амерыцы жыць—трэба завіхацца, шукаць, на чым бы можна было зарабіць.

Тым часам зайшлі ў дом, падняліся па лесвіцы на другі паверх. Мікола адчыніў шырокія шкляныя дзверы, прапусціў Адама ў вялікі прасторны пакой, які быў застаўлены кнігамі.

— Сядайце,—паказаў ён на канапу, што стаяла ля сцяны.—У Амерыцы не прынята частаваць гасцей гэтак, як у нас. Тут падаюць віскі з содавай, каву і салёныя арэшкі. Але я хачу пачаставаць вас па-нашаму, па-беларуску. Таму аддам распараджэнне нашай служанцы Мэры, каб яна сёе-тое прыгатавала...

Адам, не сядаючы на канапу, падышоў да паліц і з цікавасцю пачаў разглядаць кнігі. Былі яны на розных мовах—па-нямецку, па-англійску, па-руску, па-беларуску і ў асноўным—мастацкая літаратура.

За гэтым заняткам—разглядам кніг — Адама і застаў Мікола, калі вярнуўся хвілін праз колькі назад у пакой.

— О, вы таксама, бачу, аматар кніг,—усклікнуў усміхнуўшыся Мікола.—Некалі, як жыў я на радзіме, хадзіў за некалькі кіламетраў у суседнія вёскі, каб дастаць што-небудзь пачытаць. І цяпер як толькі вольная хвіліна—чытаю. Іншы раз аж плачу. Асабліва, калі чытаю беларускіх пісьменнікаў. Яны ж пішуць пра тое, што я страціў, чаго тут няма...

— Усё ж цягне да сябе радзіма!

— Ведаеце, бываюць хвіліны, калі забываеш на яе, заняты іншым клопатам. А бывае, аж выеш,—прызнаўся Мікола.—Так агорне сумота—ночы не спіш... Усё чысценька ў памяці перабярэш, чым жыў, кожную дробязь. Вось колькі год мінула, а ў вачах у мяне і хата наша, агарод, сцежачка, што бегла да Дняпра і па якой я на рыбалку і з рыбалкі хадзіў, стромы тыя, дзе гняздзіліся стрыжы... Ды што—цану на ўсё, што прадавалася ў нашым магазіне помню... А вас убачыў, дык цэлая бура ў душы паднялася... Ані спаць не магу. Думаю, пагавару з вамі, раптам на радзіму мне можна будзе прыехаць? Хоць на дзень... Каб, здаецца, адным вокам глянуць на ўсё, што некалі бачыў...

— Што вас стрымлівае, чаму б вам і сапраўды не наведаць родныя мясціны?—запытаў Адам.

— Ды быццам нічога не стрымлівае,—развёў рукамі Мікола.—І разам з тым...

У пакой зайшла з падносам на галаве маладая, не ў меру распаўнелая негрыцянка. Павітаўшыся, яна паставіла на стол бутэльку віскі, содавую, дзве высокія, з каляровай гравіроўкай шклянкі; у асобных пасудзінах з крышталю — лёд, арэшкі.

— Давайце вып'ем па глытку,—прапанаваў Мікола, як толькі пакінула іх, выйшла з пакоя Мэры.

— У мяне белавежская і баравікі марынаваныя, — сказаў Адам. — Вось,—і дастаў з пакета, падаў бутэльку і слоік з баравікамі Міколу.

— Баравікі?—аж не паверыў Мікола.—Даўно я іх не еў.

Доўга разглядаў слоік з баравікамі, паварочваў яго і так і гэтак Мікола, любаваўся.

— Божа, колькі іх, такіх вось чорнагаловых, я калісьці браў!—урэшце ўсклікнуў ён.—Кашалямі насіў. А лісічкі, сыраежкі, абабкі, падасінавікі!.. Мы ж усё лета з лесу не выходзілі, бацьку вартавалі... Сядайце, раскажу...

І, паставіўшы перад сабою слоік з баравікамі, Мікола пачаў расказваць, як арыштавалі ў трыццаць сёмым годзе бацьку, а той, калі яго вялі, уцёк...

— І хаваўся аж чатыры гады, пакуль немцы да нас не прыйшлі... Што пераржыў ён сам, перажыла маці, перажылі мы, іхнія дзеці! Здаралася, да нас на дні па два-тры разы міліцыя прыязджала. Прыязджала разоў колькі і ўночы... На гарышча злазяць, у пограб... Ды і ў хаце, у хляве ўсё чысценька ператрасуць. І паедуць... А потым праз гадзіну-другую зноў вернуцца, зноў лазяць, трасуць, шукаюць... І мы, дзеці, нас было чацвёра, нават калі ягад, грыбоў не было—усе адно хадзілі па лесе... Каб своечасова папярэдзіць маці, бацьку, што ў вёску нехта едзе ці ідзе чужы. Балазе, хата наша стаяла наводшыбе, ля самага лесу...

Выпілі па глытку, прамачылі горла віскі з содавай. Укінулі ў рот па арэшку.

— А як немцы прыйшлі, куды ваш бацька ды і вы падаліся?—спытаў Адам.

— Я камсамолец быў. І, вядома ж, у лес падаўся. Спярша проста хаваўся, потым прыбіўся да дыверсійнай групы капітана Пальцава. Палілі масты, свірны са збожжам... І на немцаў разоў колькі нападалі... Калі тыя па дарогах кіраваліся ці на пастой дзе-небудзь спыняліся ў вёсках...

— А бацька?

— Бацька дома быў, нікуды не ішоў. Надта ж напакутаваўся ён, дзе толькі ні хаваючыся ад усіх. Аж зналюдзеў быў. На гаспадарцы працаваў. Нам, партызанам, калі іншы раз наведваліся, торбы харчамі ладаваў. Запрашалі яго ісці ў паліцыю, маўляў, табе поўны давер, ты ж пакрыўджаны Савецкай уладай. Але не, у паліцыю ён не пайшоў...

Зноў паднялася з першага паверха ў пакой Мэры, гэты раз прынесла на падносе закуску—тонка парэзаную вяндліну, нейкія залітыя маянэзам і рознымі соўсамі салаты, вінегрэты... Моўчкі ўсё гэта паставіла на стале, і, пажадаўшы прыемнага апетыту, пайшла.

— Выпіце,—падахвочваў Адама Мікола.—Не ведаю як вы, а я іншы раз выпіваю. Як наваліцца сумота—месца сабе нідзе не знаходжу. Вось бутэлечка віскі і ратуе. У партызанах я выпіваць навучыўся. Галодныя ж былі, ды і рызыкавалі кожны раз сабой, сваім жыццём... Ідзеш у вёску ці на хутар і не ведаеш, хто там, што цябе чакае...

— І доўга вы партызанілі?

— Аж пакуль не злавілі... Мы ўтрох тады былі. А яны, немцы, нас і прывартавалі. Ды так, што мы і абараніцца не маглі. Проста ў хаце, куды мы паесці зайшлі, і ўзялі. Не буду называць прозвішчы тых, з кім я быў, можа, тыя людзі яшчэ і сёння дзе жывуць. Ды і не ведаю я, як хто з іх сябе паводзіў, трапіўшы ў рукі ворага. Ведаю толькі—хтосьці з іх не вытрымаў катаванняў. І выдаў, хто з намі ў партызанах быў, іх сем'і... А паколькі я нікога не выдаваў, хоць мяне і білі,

